# Самацёк у рэалізацыі пазыкі—галоўнейшая прычына зацяжкі кампаніі

## Адстаючых на грамадзкі буксір

Прайшло ўжо каля трох месяцаў з дню апублікаваньня ў ЦО „Правда“ пастановы аб выпуску новай пазыкі, а па БССР плян яшчэ далёка ня выканан. БССР ганебна пляцецца ў хвасьце. Яна паказвае пры лад як ня трэба працаваць.

ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове аб ходзе рэалізацыі пазыкі „4-га заключнага году пяцігодкі“ адзначыла зусім нездавальняючы ход кампаніі.

Плян сярод рабочых і служачых на 1-ае жніўня выканан толькі на 95,5 проц.

Зусім нездавальняюча праходзіць падпіска на вёсцы. Плян па калгасным сэктары выканан на 59,9 проц., а па аднаасобным сэктары пазыка рэалізавана толькі на 2 проц.

Бягомльскі, Асьвейскі, Прапойскі, Бялыніцкі, Бешанковіцкі, Кармянскі, Лоеўскі, Уваравіцкі, Чачэрскі, Гарадоцкі і Вуэльдзенскі раёны рэалізацыю пазыкі на вёсцы пусьцілі на хвалях самацёку і не разгарнулі яшчэ амаль ніякай работы. Гэтыя раёны ня выканалі пастановы ЦК КП(б)Б аб скончэньні ў асноўным падпіскі на працягу чэрвеня месяца 1932 году.

Праводзячыся зараз па БССР камсамольскі дэкаднік дапамогі вёсцы таксама амаль ніякага зруху ня даў. **На 7 жніўня паасобныя камсамольскія арганізацыі (Бярэзіна) яшчэ нават ня ўключыліся ў дэкаднік. Камсамол Бярэзіншчыны лічыць непатрэбным дапамагчы ў вясковым сэктары ў бліжэйшыя дні скончыць рэалізацыю пазыкі.**

Па даных Галоўнага кіраўніцтва ашчадкасамі і Дзяржкрэдыту НКФ БССР па Быхаўскім, Бялыніцкім, Гарадоцкім, Ельскім, Камарынскім, Крычаўскім, Плешчаніцкім, Рэчыцкім і інш. раёнах сярод працоўных аднаасобнікаў не рэалізавана ніводнай аблігацыі.

Гэтае ганебнае зьявішча ставіць перад грамадзкасьцю пытаньне — чым займаюцца саветы, камсоды, настаўніцтва, ашчадкасы і ўся грамадзкасьць гэтых раёнаў. Чым магчыма тлумачыць як не злачыннай нядбайнасьцю і апартуністычнай бязьдзейнасьцю ўсіх без выключэньня арганізацый пералічаных раёнаў.

Але на раду з адстаючымі ёсьць і перадавыя.

У тых раёнах, сельсаветах, калгасах і вёсках, дзе па-бальшавіцку было разгорнута сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва. Дзе ў аснову былі пакладзены новыя формы і мэтады работы, дамагліся значных посьпехаў.

У перадавой калёне барацьбітоў за поўнае і своечасовае выкананьне пляну рэалізацыі пазыкі **„4-га заключнага году пяцігодкі“**, сярод калгасьнікаў ідуць: Заслаўскі, Клімавіцкі, Лёзьненскі, Мсьціслаўскі, Сіроцінскі і Старобінскі раёны.

Старшыням Райкалгассаюзу пералічаных раёнаў, Наркамфінам БССР выданы прэміі па 200 руб. і граматы „ударніка фінфронту“ кожнаму. Выкананьне і перавыкананьне пляну перадавымі раёнамі лішні раз паказваюць аб тым, што дадзены плян зьяўляецца зусім рэальным, яго можна і патрэбна ня толькі выканаць, але і перавыканаць.

Фінансавыя арганізацыі і Райкалгассаюзы павінны неадкладна арганізаваць буксірную дапамогу з перадавых раёнаў—адстаючым. Мабілізаваць увесь актыў, дасылаючы яго на адстаючыя вучасткі і шляхам правядзеньня шырокай масава растлумачальнай работы на аснове прымяненьня сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва—вывесьці адстаючых на лінію перадавых.

РК ЛКСМБ таксама павінны сваіх лепшых ударнікаў, паказаўшых бліскучыя ўзоры работы на фронце рэалізацыі пазыкі ў горадзе, накіраваць у вёску на ліквідацыю прарыву.

Толькі пры выкананьні гэтых умоў на аснове новых форм і мэтадаў работы, мабілізацыі грамадзкасьці і пасылкі буксірных брыгад у адстаючыя раёны, сельсаветы і калгасы, БССР з ганебнага прарыву выйдзе на перадавыя пазыцыі змагароў за поўнае выкананьне пляну рэалізацыі пазыкі „4-га заключнага году пяцігодкі“.

**Т. Альпяровіч.**

# Райкалгассаюзы, прымайце выклік!

Надаючы вялікае значэньне газэце **„Калгасьнік Беларусі“** і часопісі **„Шляхі калектывізацыі“** у сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, — **цэнтральнае праўленьне саюзу рабочых МТС выпісала ў цэнтралізаваным парадку для ўсіх нізавых ячэек саюзу 114 экз. газэты „Калгасьнік Беларусі“ і 114 экз. часопісі „Шляхі калектывізацыі“.**

Праўленьне саюзу лічыць, што памянёную часопісь і газэту павінен чытаць кожны калгасьнік, кожны рабочы МТС. Таму, шырокае распаўсюджаньне „Калгасьніка Беларусі і „Шляхі калектывізацыі“ — павінна стаць аднэй з галоўнейшых задач у штодзеннай працы ўсіх праўленьняў калгасаў і нізавых ячэек саюзу рабочых МТС.

Цэнтральнае праўленьне саюзу рабочых МТС выклікае на сацспаборніцтва па распаўсюджаньні газэты „Калгасьнік Беларусі“ і часопісі „Шляхі калектывізацыі“ усе райкалгассаюзы БССР. Праўленьне саюзу лічыць, што райкалгассаюзы могуць і павінны выканаць дырэктывы Калгасцэнтра БССР аб распаўсюджаньні сярод калгасных мас гэтых выданьняў.

Водгукаў на наш выклік чакаем ад райкалгассаюзаў праз газэту „Калгасьнік Беларусі“ і часопісь „Шляхі калектывізацыі“.

**Старшыня ЦП** (подпіс)

**Кіраўнік справамі** (подпіс)

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ШЛЯХІ
# Калектывізацыі

16
1932
ЖНІВЕНЬ

**Няўстаннаму змагару за генэральную лінію і ленінскую нацыянальную палітыку партыі, калектыўнаму прапагандысту, агітатару і арганізатару—„Зьвязьдзе“ палкае бальшавіцкае прывітаньне ў дзень пятнаццацігадовага яе юбілею.**

## ЗЬМЕСТ



ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР

# Пятнаццаць і пяць

„Зьвязда“, зарадзіўшыся ў пэрыяд жорсткага тэрору з боку часовага ўраду, прайшла вялізарнейшы шлях праз прасьледваньні, Кастрычніцкія баі, нямецкую і белапольскую акупацыі, грамадзянскую вайну.

Ва ўсе гэтыя пэрыяды „Зьвязда“ высока трымала сьцяг бальшавізму, арганізоўвала масы на барацьбу за стварэньне, утрыманьне і ўмацаваньне дыктатуры пралетарыяту.

Пад кіраўніцтвам партыі „Зьвязда“ з першага свайго нумару, у пэрыяд падрыхтоўкі ўзброенага паўстаньня, у пэрыяд грамадзянскай вайны, аднаўленчы пэрыяд цьвёрда праводзіла партыйную лінію, бязьлітасна змагаючыся з клясавым ворагам і яго апартуністычнай агентурай унутры партыі.

Ад аднаўленчага пэрыяду партыя перайшла да сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі.

„Зьвязда“, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б павярнулася тварам да баявых задач будаўніцтва сацыялізму, мабілізуючы масы на барацьбу за выкананьне гэтых грандыёзных задач, узьнімаючы хвалю пралетарскай бальшавіцкай крытыкі і самакрытыкі, вядучы барацьбу з тэорыяй і практыкай правага апартунізму, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, з „лявацкімі“ заскокамі і перагібамі, з прымірэнцтвам да ўхілаў.

Калі партыя рашуча і бязьлітасна выкрывала кулацкую, нацыянал-дэмакратычную сутнасьць прышчэпаўшчыны, „Зьвязда“ паказвала яркія ўзоры бальшавіцкай пільнасьці.

„Зьвязда“ ня толькі выкрывала „тэорыю“ нацдэмаў аб беларускіх асаблівасьцях сельскай гаспадаркі, але бязьлітасна біла на практыцы прышчэпаўшчыну, па малейшых яе праяўленьнях і рэцыдывах у тых ці іншых мясцох рэспублікі.

„Зьвязда“ вяла рашучую барацьбу за сацыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі, змагаючыся як з правай, так і з „левай“ тэорыяй і практыкай. „Зьвязда“ прасьледвала прышчэпаўшчыну па пятах да таго часу, пакуль яна ня была канчаткова дабіта. Тут трэба адзначыць, што „Зьвязда“ дапусьціла ў пытаньнях сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі пры ў асноўным правільнай лініі рад асобных памылак: „лявацкая“ арыентоўка ў асобных артыкулах на хутчэйшае сканчэньне калектывізацыі; няправільная трактоўка ў аднэй з перадавых лёзунгаў партыі аб ліквідацыі кулацтва, як клясы (1930 год).

Пад кіраўніцтвам ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б пры дапамозе „Праўды“, „Зьвязда“ хутка і рашуча выправіла свае памылкі.

У барацьбе за рэканструкцыю сацыялістычнай прамысловасьці, за выкананьне прамфінпляну, „Зьвязда“ правяла вялікую работу, дзейнічаючы сілай прыкладу, арганізуючы масы, заражаючы іх энтузіязмам.

Але яшчэ далёка ня ўсё зроблена „Зьвяздой“ у гэтай галіне. Перад намі стаіць задача—яшчэ шырэй разгарнуць барацьбу за выкананьне прамфінпляну фабрыкамі і заводамі на аснове ажыцьцяўленьня 6 гістарычных умоў тав. Сталіна.

„Зьвязда“ на ўсім працягу сваёй 15-гадовай гісторыі вучылася ў „Праўды“ яе ленінскай непрымірымай барацьбе супроць апартунізму, на два франты. „Зьвязда“ заўсёды была і застаецца верным памочнікам партыі ў барацьбе за ленінскую нацыянальную палітыку. Яна непрымірыма змагаецца і будзе змагацца супроць усякіх ухілаў ад нацыянальнай палітыкі партыі і асабліва супроць ухілу ў бок вялікадзяржаўнага шавінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе.

„Зьвязда“ паказвала і паказвае масам, што нацыяналізм—адна са зброй контррэволюцыі ў яе барацьбе супроць дыктатуры пралетарыяту. У пэрыяд разгорнутага сацыялістычнага наступленьня па ўсім фронце, у сувязі з абвастрэньнем клясавай барацьбы ў нашай краіне, беларускі нацыянал-дэмакратызм пачаў актывізавацца, стаўшы на адкрыты шлях барацьбы супроць савецкай улады. „Зьвязда“ аказвала вялізарнейшую дапамогу партыі ў яе барацьбе супроць беларускага контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму, які працягваў руку польскаму фашызму. „Зьвязда“ дапамагла партыі выбіць нацдэмаў з іх пазыцый, сарваць маскі з дапаможнікаў інтэрвэнтаў.

Разам з тым „Зьвязда“ рашуча змагалася і змагаецца з вялікадзяржаўным шавінізмам, які актывізаваўся ў сувязі з разгорнутым наступленьнем сацыялізму і разгорнутым наступленьнем сацыялізму па ўсім фронце. Расійскі вялікадзяржаўны шавінізм у радзе выпадкаў блёкаваўся з беларускім нацыянал-дэмакратызмам для супольнай барацьбы супроць партыі, супроць савецкай улады.

У гэтай барацьбе супроць шавінізмаў усіх колераў і адценьняў „Зьвязда“ адзін час дапусьціла памылку, вытлумачваючы беларускі нацыянал-дэмакратызм, як галоўную небясьпеку,—пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б „Зьвязда“ выправіла гэту памылку.

Савецкая Беларусь вырасла і ўмацавалася дзякуючы таму, што ёю кіруе да канца рэвалюцыйная ленінская бальшавіцкая партыя. Пад кіраўніцтвам партыі і яе Ленінскага ЦК УсеКП(б) на чале з тав. Сталіным і ЦК КП(б)Б, працоўныя масы Савецкай Беларусі разьбілі ворагаў, ствараюць магутную сацыялістычную індустрыю, буйную сацыялістычную сельскую гаспадарку, будуюць нацыянальную па форме і пралетарскую, сацыялістычную па зьместу культуру. Як і ўвесь Саюз БССР канчаткова ўмацавалася на новым сацыялістычным шляху.

Ва ўсіх вялізарнейшых гістарычных перамогах „Зьвязда“ адыграла вялікую ролю, будучы на ўсіх этапах моцнай зброяй партыі ў агітацыі і прапагандзе ідэй бальшавізму, ленінізму, у арганізацыі мас на ператварэньне гэтых ідэй у найвялікшыя практычныя справы.

Гэта роля „Зьвязды“ стала яшчэ больш значнай пасьля таго, як яна роўна 5 год назад перайшла на беларускую мову, на якой гаворыць пераважная большасьць працоўнага насельніцтва Беларусі. За гэтыя пяць год „Зьвязда“ аказала дапамогу партыі ў адносінах беларусізацыі партыйных арганізацый, савецкіх установ і друку. Але ў гэтай галіне перад „Зьвяздой“ стаяць яшчэ вялікія задачы, за выкананьне якіх як „Зьвязьдзе“, так і ўсяму друку Беларусі трэба змагацца з яшчэ большай упартасьцю і рашучасьцю.

За 15 год свайго існаваньня „Зьвязда“ выхавала вялізарнейшую армію рабселькораў, якія „становяцца пад кіраўніцтвам партыі арганізатарамі мас для справы сацыялістычнага будаўніцтва, выкананьня вытворчых плянаў і разгорнутага наступленьня на клясавых ворагаў“ (з паст. ЦК УсеКП(б) ад 16 красавіка 1931 г.). Значна вырасла роля нізавога фабрычна-заводзкага і саўгасна-калгаснага друку. Перад намі стаіць задача-замацаваць дасягненьні ў галіне рабселькораўскага руху і нізавога друку.

Дасягненьні „Зьвязды“ былі магчымы толькі дзякуючы пастаяннаму і непасрэднаму кіраўніцтву Цэнтральнага Камітэту КП(б)Б, дзякуючы таму, што гісторыя „Зьвязды“ неадлучна ад гісторыі КП(б)Б, баявога бальшавіцкага атраду УсеКП(б).

Мы павінны ў даны момант яшчэ шырэй, з яшчэ большай энэргіяй разгарнуць барацьбу за выкананьне баявых задач партыі: правядзеньне ўборкі і збожжазагатовак; разгортваньне калгаснага гандлю і выпрацоўку прадметаў шырокага спажываньня, паляпшэньне матар'яльна-бытавых умоў працоўных мас, барацьбу за рэвалюцыйную законнасьць.

У пастаяннай сувязі з масамі, у рабоце праз масы, і пры дапамозе мас—несакрушальная сіла нашага бальшавіцкага друку. Самая цесная сувязь з масамі, з дзесяткамі тысяч будаўнікоў сацыялізму, кіраўніцтва бальшавіцкай партыі і непрымірымая барацьба за ленінізм, за генэральную лінію партыі—вось асноўнае, што вырашала ў мінулым і будзе вырашаць у будучым посьпехі „Зьвязды“ і ўсяго бальшавіцкага друку БССР.

Яшчэ вышэй узьнімем сьцяг ваяўнічай бальшавіцкай партыйнасьці, сьцяг ленінізму, выхоўваючы і арганізуючы дзесяткі тысяч працоўных для выкананьня грандыёзнага пляну пабудовы бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва!

*(„Зьвязда“)*

## Прывітаньне „Зьвязьдзе“ ад ЦК КП(б)Б

Баявому органу КП(б)Б—„Зьвязьдзе“ у дзень яе пятнаццацігодзьдзя і пяцігодзьдзя пераводу на беларускую мову ЦК КП(б)Б шле гарачае бальшавіцкае прывітаньне.

„Зьвязда“ на працягу 15-ці год свайго існаваньня заўсёды вяла і вядзе непрымірымую барацьбу за генэральную лінію партыі, высока трымае сьцяг ленінізму, рашуча змагаецца з правымі і „левымі“ апартуністамі і на аснове сьмелай бальшавіцкай самакрытыкі арганізуе актыўнасьць рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных БССР на ажыцьцяўленьне сусьветна-гістарычных задач—пабудовы бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва.

„Зьвязда“, зьяўляючыся лепшым дапаможнікам КП(б)Б пад кіраўніцтвам ЦК, рашуча змагалася і змагаецца за ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай палітыкі, з ухілам у бок вялікадзяржаўнага шавінізму—галоўнай небясьпекай на даным этапе—не аслабляе барацьбы з ухіламі ў бок мясцовага шавінізму, з шавінізмамі ўсякіх колераў і адценьняў.

ЦК КП(б)Б упэўнен, што „Зьвязда“, як і дагэтуль, будзе высока трымаць сьцяг бальшавіцкай непрымірымасьці да ўхілаў ад лініі партыі.

Слаўны юбілей „Зьвязды“ павінен яшчэ ў большай меры актывізаваць газэту і яе шматлікую армію рабселькораў на барацьбу за ажыцьцяўленьне 6 гістарычных указаньняў т. Сталіна, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасу, на яшчэ

большае ўзмацненьне сыстэматычнай увагі да пытаньняў абароназдольнасьці савецкай краіны і пытаньняў інтэрнацыянальнага выхаваньня шырокіх мас, за разгортваньне матар'яльна-бытавых умоў рабочых і шырокае разгортваньне савецкага гандлю, за высокія тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва.

Няхай жыве „Зьвязда“—баявы орган ЦК КП(б)Б!
Няхай жыве ЦК УсеКП(б)—правадыр і арганізатар сацыялістычнага будаўніцтва!
Няхай жыве правадыр камуністычнай партыі і сусьветнага пралетарыяту тав. Сталін!

Сакратар ЦК КП(б)Б **Шарангові**ч.

# ЗА БАЛЬШАВІЦКУЮ АРГАНІЗАЦЫЮ ХЛЕБАЗАГАТОВАК

Сацыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі—саўгасы і калгасы займаюць асноўнае месца ва ўсім пляне дзяржаўных хлебазагатовак. Такім чынам, кампанія хлебазагатовак у калгасе ў гэтым годзе набывае асабліва вялікае палітычнае і гаспадарчае значэньне.

План дзяржаўных хлебазагатовак па калгасам значна зьменшан у параўнаньні з плянам мінулага году.

Аднак самацёку і казённаму „благодушию“ і апартуністычным развежаньням аб тым, што раз плян невялікі, то хлеб сам пойдзе і плян без асобай напруджанасьці і падрыхтоўчай работы будзе выканан—павінен быць дадзен рашучы адпор. Уся калгасная сыстэма ў першую чаргу, а таксама і раённыя кіруючыя арганізацыі—сельсаветы, партыйныя і камсамольскія ячэйкі на месцох,—павінны правесьці вялікую работу па арганізацыі хлебазагатовак, каб забясьпечыць поўнае выкананьне пляну збожжазагатовак калгасамі ў найкарацейшы тэрмін і лепшай па якасьці прадукцыі.

Адным з важнейшых момантаў у справе выкананьня хлебазагатовак зьяўляецца правільнае плянаваньне. У мінулым годзе ў радзе месц мелі выпадкі мэханічнага разьмеркаваньня пляну хлебазагатовак паміж калгасамі без вывучэньня сапраўднага становішча кожнага паасобнага калгасу, бяз уліку яго пасеўных плошчаў, фактычнай ураджайнасьці, спэцыялізацыі гаспадаркі і наяўнасьці жывёлы. У выніку гэтага назіралася зацяжка ў выкананьні плянаў і нават невыкананьня многімі калгасамі тых плянавых заданьняў, якія ім былі вызначаны.

Задача заключаецца ў тым, каб забясьпечыць такое становішча, што калгас, лепш засеяўшы і ўбраўшы і акуратна выканаўшы вызначаныя яму пляны загатовак, меў у сваім распараджэньні для ўласных патрэб большую колькасьць хлеба, чым той калгас, які дрэнна выконваў свае вытворчыя планы. Для гэтага калгаснай сыстэме і загатавіцельным арганізацыям яшчэ да вызначэньня пляну калгасам трэба мець дакладныя весткі аб фактычна засеяных плошчах у разрэзе культур азімых і яравых пасеваў і ўстанавіць ураджайнасьць па гэтых культурах, улічыць спэцыялізацыю кожнага калгасу, пагалоўе жывёлы і льготы, якія ўстаноўлены урадам.

Вялікую ролю ў справе выкананьня плянаў хлебазагатовак будзе адыгрываць абмалот. У гэтым годзе няма магчымасьці ахапіць малацьбу ўсіх калгасаў складанымі і паўскладанымі малацілкамі з мэханічнымі рухавікамі. Неабходна поўнасьцю выкарыстаць усе маючыяся ў калгасах простыя малатарні коннай цягі. Таму кожны калгас павінен адрамантаваць і прывесьці ў поўную гатоўнасьць усе маючыяся ў яго гаспадарцы простыя машыны, адначасова Калгассаюзам і МТС патрэбна скласьці апарацыйныя пляны. У плянах трэба прадугледзіць поўнае скарыстаньне складаных і паўскладаных малацілак, маючы на ўвазе, што калгасы адначасова павінны намалаціць патрэбную колькасьць зярна для здачы па пляну загатовак, на насеньне для пасеву азімага кліну і для выдачы калгасьнікам авансаў на працадні.

У мінулым годзе многімі калгасамі здавалася на загатавіцельныя пункты па пляну загатовак недобраякаснае, засьмечанае і неадпавядаючае ўстаноўленым кандыцыям зярно. Патрэбна тут-жа пры абмалоце наладзіць зернаачыстку, для чаго падрыхтаваць усе зернаачышчальныя машыны.

Работа як па абмалоту, так і па зернаачыстцы і здачы зерна на загатавіцельныя пункты будзе праходзіць у пэрыяд, калі ў большасьці калгасаў будзе напруджанасьць з рабочай людзкой і конскай цягавай сілай. У зьвязку з правядзеньнем уборачных работ, асеньнім севам, зяблівым ворывам, сіласаваньнем і іншымі работамі ў гаспадарцы—могуць быць у сувязі з гэтым развежаньні такога зьместу, што малацьбу і здачу таварных лішкаў можна адкласьці на позьнюю восень альбо зіму. Такія развежаньні павінны разглядацца як шкодныя кулацкія і ім павінна быць абвешчана рашучая барацьба.

Трэба мець на ўвазе, што акрамя выкананьня пляну загатовак калгасы павінны не пазьней 15 студзеня 1933 г. правесьці разьмеркаваньне даходаў і ўраджаю і разгарнуць калгасны гандаль хлебам.

Адным з важнейшых момантаў у справе правядзеньня хлебазагатовак зьяўляецца пытаньне з тарай. Калгасам патрэбна разьлічваць толькі на сваю тару. Патрэбна ўлічыць наяўнасьць мяхоў у гаспадарцы, праверыць іх годнасьць і ўтварыць рамонт. Патрэбна разгарнуць працу сярод калгасьнікаў па мабілізацыі мясцовых рэсурсаў, праводзячы работу пад лёзунгам: „ня менш 2-х мяшкоў з калгаснай сям'і на час хлебазагатовак“.

Калі ў калгасе будуць вычарпаны ўсе магчымасьці і ўсё-ж будзе адчувацца недахоп тары, патрэбна арганізаваць бястарную перавозку, для чаго зрабіць шчыльныя скрыні, скарыстаць маючыяся брэзэнты, рагожныя кулі і г. д.

Патрэбна падрыхтаваць і прывесьці ў поўную гатоўнасьць увесь транспарт, збрую і пад'язныя шляхі. Неабходна папярэдзіць недахоп мінулага году, калі ў радзе калгасаў з-за няспраўнасьці транспарту, збруі і шляхоў тармазілася і зацягвалася работа па вывазцы хлеба на загатавіцельныя пункты.

Галоўнае, на што павінна быць зьвернута ўвага ўсіх калгасаў—гэта правільная пастаноўка ўліку як усяго зьбіраемага ўраджаю, таксама і абмалочанага. Патрэбна справу паставіць так, каб ніводзін кілёграм збожжа ня прымаўся ў амбар і не выдаваўся з амбару без вагі і без расьпіскі таго, хто гэтае зярно атрымлівае. Патрэбна рашуча зьнішчыць безадказнасьць, якая мелася ў радзе калгасаў у гэтым пытаньні. Калгаснаму ўраджаю павінен быць забясьпечан правільны і дасканалы ўлік.

Вясною гэтага году калгасы тых раёнаў, якія ў мінулым годзе мелі недарод, атрымалі ад дзяржавы бяспроцантную насенную і харчовую ссуду з умовай звароту яе ў 1932 годзе. Гэтае абавязацельства павінна быць выканана ўсімі калгасамі, адначасова з выкананьнем пляну загатовак. Хлебазагатавіцельныя арганізацыі, пры арганізацыі хлебазагатовак, павінны асаблівую ўвагу зьвярнуць на справу пастаноўкі разьлікаў з калгасьнікамі за здаваемы імі хлеб. Патрэбна рашуча зьнішчыць практыку безнаяўных разьлікаў, практыкаваўшуюся ў мінулым годзе, калі калгасы за зданы імі хлеб атрымоўвалі нязначную колькасьць грошай і са значным спазьненьнем.

Патрэбна, каб і МТС рабілі ўтрыманьні прылічваючыхся ім з калгасаў за работу грошай не з першых здач хлеба, а ў каляндарныя тэрміны па ўзгадненьні з калгасамі.

На падставе посьпехаў у справе пад'ёма сацыялістычнай прамысловасьці і перамог калгасаў, партыя і Савецкая ўлада ўстанавілі магчымым разгарнуць калгасны гандаль хлебам як дадатковую крыніцу забясьпечаньня насельніцтва прамысловых, гарадзкіх цэнтраў. Гандаль хлебам праводзіцца пасьля 15 студзеня 1933 году пасьля поўнага выкананьня дзяржаўнага пляну хлебазагатовак і засыпкі насенных фондаў. Вядома, што з самага пачатку збожжазагатовак спэкулянты і перакупшчыкі паспрабуюць скарыстаць гэтыя рашэньні ў сваіх мэтах. Таму патрэбна павесьці супроць іх рашучую барацьбу „Ніводнага цэнтнэра калгаснага хлеба перакупшчыку і спэкулянту"—вось лёзунг кожнага калгасу і калгасьніка.

Як падрыхтоўка, так і правядзеньне загатовак павінна саправаджацца шырокай масавай растлумачальнай работай сярод калгасных мас па мабілізацыі іх на правядзеньне ўборачнай кампаніі бяз страт за сваячасовае і поўнае выкананьне пляну загатовак.

Вакол пытаньня хлебазагатовак кулак будзе весьці работу, накіраваную на зрыў гэтага важнейшага мерапрыемства. Патрэбна выяўляць усе кулацкія імкненьні сарваць загатоўкі і даваць ім рашучы адпор.

**А. Залескі.**

# ВЫКАНАЦЬ ПЛЯН АЗІМАЙ СЯЎБЫ

Сельская гаспадарка спэцыялізуецца на аснове буйных калгасаў і саўгасаў. У адпаведнасьці з гэтым значна зьмяняецца культура засеўных плошчаў. Лён, канопլі, кармавыя культуры і травы ва ўмовах БССР зьяўляюцца вядучымі культурамі паляводзтва і павялічэньне пасеву іх у гаспадарцы, паднячьцё ўраджайнасьці—зьяўляецца першачарговай задачай, што вырашае хутчэйшы ўздым таварнасьці сельскай гаспадаркі.

Аднак, было-б вялікай памылкай, з народна-гаспадарчага боку недаацэньваньне збожжавых азімых культур. Збожжавыя культуры ў сучасны момант у нас займаюць ня менш 30 проц. усёй плошчы пахаці.

У гэтым годзе плошча азімых калгасамі і саўгасамі павінна складаць каля 60 проц. усёй вызначанай плошчы па пляну. Гэта вялізарная перамога дае магчымасьць правесьці асеньнюю засеўкампанію ў найкарацейшы час і больш арганізавана.

Наяўнасьць значнай колькасьці конскага пагалоўя і ўзрастаючай ролі МТС дае магчымасьць паставіць ва ўсю шырыню галоўнай задачай асеньняй сяўбы барацьбу за высокі ўраджай азімых. У ажыцьцяўленьні гэтай задачы неабходна правесьці цэлы рад прасьцейшых аграмерапрыемстваў.

Адным з такіх мерапрыемстваў будзе палепшаньне апрацоўкі глебы. Апрацоўка глебы павінна весьціся загадзя. Патрэбна поле сваячасова падрыхтаваць; добрая апрацоўка глебы ва ўмовах БССР па дадзеных дасьледчых установ падвышае ўраджай на 30—40 пр.

Найбольш спрыяючым тэрмінам сяўбы для БССР трэба лічыць апошнюю палову жніўня і першую дэкаду верасьня. Пры раньняй сяўбе магчыма буйнае разрастаньне руні, што можа выклікаць выправаньне; перасьцерагчы гэта можна высокім падкашваньнем перад выпадзеньнем сьнегу.

Радковы засеў і добраякаснае насеньне таксама адно з мерапрыемстваў, падвышаючых ураджай. Уздым папару і дваеньне патрэбна праводзіць сваячасова. Патрэбна зьвярнуць значную ўвагу на сваячасовы завоз штучных угнаеньняў, неабходна зьліквідаваць залежы ўгнаеньняў на чыгуначных станцыях.

Такія ганебныя ўчынкі і недаацэньваньне ролі ўгнаеньня патрэбна зьнішчыць. Вапнаваньне—адно з мерапрыемстваў у павялічэньні ўраджайнасьці, недаацэнка яго павінна быць зьнішчана. Саўгасы і калгасы павінны пераканацца, што вапнаваньне глебы асабліва падзолістых і кіслых, паляпшае яе структурнасьць і на фоне вапнаваньня дзейнасьць угнаеньня становіцца больш значнай.

Ігнараваньне прасьцейшых мерапрыемстваў ёсьць удар па ўраджайнасьці азімых культур. На іх выкананьне патрэбна прыкласьці ўсе сілы. Патрэбна мабілізаваць шырокую савецкую грамадзкасьць, каб кожны ведаў, што ад ужываньня прасьцейшых мерапрыемстваў, — залежыць павышэньне ўраджаю. Зьдзельшчына і правільная расстаноўка рабочай сілы павінны забясьпечыць правільнае і сваячасовае правядзеньне асеньняй сяўбы.

Асноўнай формай арганізацыі працы ў калгасах зьяўляецца брыгада з падразьдзяленьнямі на зьвеньні, якія выконваюць заданьні брыгадзіра па раней складзеным пляне.

Калгасная брыгада павінна быць так арганізавана, каб побач з сваячасовым выкананьнем уборкі, малацьбы, спраўлялася з правядзеньнем сяўбы.

МТС павінны стаць узорамі бальшавіцкай арганізацыі асеньняй сяўбы, яны павінны арганізаваць узорныя тэмпы барацьбы за своечасовую і добрую падрыхтоўку глебы.

Ня гледзячы на тое, што сацыялістычны сэктар будзе займаць каля двух трэцяй засеву азімага кліну, удзел аднаасобнага сэктара застаецца ўсё-ж даволі значны. Таму, недаацэньваньне аднаасобнага сэктару будзе іграць толькі на руку клясаваму ворагу, які будзе імкнуцца сарваць сяўбу, як у калгасах, так і ў аднаасобным сэктары.

Задача ўсёй грамадзкасьці, асабліва раённых арганізацый—прыцягнуць шырокія масы калгасьнікаў, беднякоў і серадняко́ў, на выкананьне тых задач, якія стаяць у часе асеньняй сяўбы, разгарнуць сярод іх шырокую растлумачальную працу ў правядзеньні мерапрыемстваў па ўздыму ўраджайнасьці.

Асеньняя сяўба—арганічная частка агульнай задачы арганізацыйна-гаспадарчага замацаваньня калгасаў, а пагэтаму патрэбна па ўдарнаму падрыхтавацца і правесьці яе.

**М. Б.**

# ПОЎНАСЬЦЮ І БЯЗ СТРАТ ЎБРАЦЬ ЛЁН!

## Сартыруйце лён пры яго цярэбленьні

У барацьбе за якасьць ураджаю і яго павышэньне, сартыроўка лёну на паасобныя групы мае вялікае значэньне.

Пры сартыроўцы ільнасаломы асабліва неабходна звярачваць увагу на асноўныя прызнакі яе: даўжыня сьцябла, таўшчыня яго, колер, а таксама звярачваць увагу на ступень паражаемасьці і засьмечанасьці травастою лёну.

Усе гэтыя знадворныя прызнакі пры працэсах мочкі, працэсах першапачатковай апрацоўкі, а таксама пры апрацоўцы ільнасаломы на дэкартыкатарах, маюць вялікі ўплыў на выхад і якасьць валакна. Так кароткія сьцяблы не дадуць добрага валакна, а прыгодны толькі для кудзелі, а таму зьмешаныя з кароткім сьцяблом доўгія ня могуць быць выкарыстаны для больш якаснага матар'ялу, а таксама ідуць на кудзелю або катанін, пасьля дэкартыкацыі саломы.

Розная таўшчыня сьцяблоў, розны іх дыямэтр вельмі неаднолькава вядуць сябе пры працэсах мочкі ці сланьня. Больш тоўстыя па дыямэтру сьцяблы хутчэй заканчваюць працэс мочкі, чымся больш тонкія.

Так, калі для сьцяблоў лёну таўшчынёю у 1,71 *м* патрэбна для заканчэньня мочкі 504 гадз., ва ўмовах халаднаводнай мочкі, пры 15°C, дык сьцяблом у 1,1 *м* патрэбна 840 гадз., а для сьцяблаў у 0,79 *мм* патрэбна 1.176 гадзін.

Відаць, што з памяншэньнем дыямэтру сьцяблоў ідзе прагрэсыўны рост гадзін, патрэбных для заканчэньня працэсу мочкі. Найлепшай таўшчынёй сьцяблоў, ад якіх атрымоўваецца найбольшы выхад доўгага валакна, зьяўляецца ільнасалома з дыямэтрам у 1,0—1,3 *мм.*

З адхіленьнем, як у бок павялічэньня дыямэтру, а асабліва ў бок зьмяншэньня яго, зьвязана паніжэньне нумарнасьці саломы і выхада другога валакна ад яе.

Колер саломы таксама мае уплыў на выхад і якасьць валакна.

Рознакалёрная салома дае рознакалёрнае валакно, якое патрабуе для сваёй адбелкі розныя дозвы хімічных матар'ялаў, што нельга вытрымаць нармальна для рознакалёрнай групы валакна, а адсюль і неаднолькавасьць яго ўплыву на адбелку і на яго якасьць.

Застаўшыяся расьліны пустазельля сярод сьцяблоў лёну перашкаджаюць працэсам уборкі, затрымліваюць сушку ільну, парушаюць нармальныя працэсы мочкі і першапачатковай апрацоўкі. Зьмяншаюць вытворчасьць працы пры гэтых працэсах, зьніжаючы выхад і якасьць прадукцыі, што павялічвае яго сабекошт.

Добра адсартаваная ільнасалома, пры аднosна нязначных затратах рабочай сілы, моцна павялічвае выхад валакна да 18—22 проц. і яго якасьць на 2,5—3,5 нумары, па дадзеных Пскоўскай і інш. дасьледчых станцый, нашых саўгасаў і калгасаў, практыкаваўшых сартыроўку саломы, і дадзеных ільняных заводаў, сартыруючых трасту на аднародныя групы.

Выходзячы з гэтага, пры мэханізаванай уборцы ільну патрэбны больш аднародныя вучасткі ня зьмешваць з рэзка выдзяляючыміся іншымі палямі, па ўказаных знадворных прызнаках.

Асабліва гэтую дасканалую сартыроўку трэба правесьці пры прымяненьні ручнога цярэбленьня ільну, праводзячы пры неабходнасьці двайное цярэбленьне, г. зн. цярэбленьне спачатку больш доўгага ільну, а потым кароткага, на адным і тым-жа вучастку.

Гэтыя адсартаваныя групы ільну па яго прызнаках патрэбна ня зьмешваць паміж сабой і пры далейшых працэсах абмалоту, ці ачосу, а таксама і пры прыёмах мочкі, або расьцілу, праводзячы перад апошнім яшчэ большую ўдасканаленую сартыроўку снапамі і чыстату аднолькавасьці матар'ялу.

Такім чынам для пасьпяховага правядзеньня сартыроўкі ільнасаломы, як гаспадарча-эфэктыўнага аграмерапрыемства неабходна:

1) Загадзя, перад уборачнай кампаніяй, вызначыць рэзка адрозьніваючыяся палі або вучасткі па знадворным выглядзе травастою ільну.

2) Па кожным вучастку з яго асаблівасьцямі па засьмечанасьці росту ільну, гушчыні стаяньня і інш. удасканаліць нормы выпрацоўкі па ўсіх працэсах, уключаючы і сартыроўкі ільнасаломы, а асабліва пры ручным цярэбленьні.

3) Шырока ўжыць пры сартыроўцы ільнасаломы сацыялістычныя мэтады працы і прэміраваньне лепшых барацьбітоў за якасьць прадукцыі.

**А. Караткевіч.**



Суботнік чырвонаармейцаў. Уборка канапель жняяркай на Менскай балотнай станцыі.

# За лепшыя способы сушкі ільну

Працэсы сушкі ільносаломы набываюць асабліва важнае значэньне. Нашы заводы першапачатковай апрацоўкі ільну і існуючыя ў гэты час способы дэкартыкацыі ільносаломы, а таксама і пытаньне правільнага, бяз страт, захаваньня атрыманага ўраджая ільносаломы,—патрабуюць ад ільносаўгасаў і калгасаў даводзіць сушку ільну да 12—15 проц. вільготнасьці, або да паветрана-сухога становішча.

Лён пры церабленьні ў раньня-жоўтую сьпеласьць, па дадзеным дасьледчых устаноў, мае вільготнасьць каля 60—64 проц., а пры ўборцы яго ў позьня-жоўтую сьпеласьць 45—55 проц. вільготнасьці.

Значыць для давядзеньня ільну да стандартнай вільготнасьці, ад кожнай гаспадаркі патрабуецца апрадзяленых выдаткаў, рабочага часу, сродкаў, сіл і агратэхнічных ведаў для правільнага і рацыянальнага правядзеньня гэтага адказнага працэсу.

Гэта адказнасьць за захаваньне ўраджайнасьці ільну, пры працэсах сушкі, асабліва набываецца ў паўночнай зоне нашай краіны, дзе менш спрыяючыя ўмовы палявой сушкі ільну, а тым больш пры позьніх тэрмінах і зацяжным працэсу ўборкі яго.

Праводзячы сушку ільносаломы, неабходна арганізаваць працэс так, каб ён адказваў наступным асноўным умовам:

1) **Атрымаць ільносалому з магчыма меншым процантам вільгаці.**

2) Высушаная ільносалома павінна быць у аднолькавай ступені па вільготнасьці, колеру, выраўненасьці сьцяблоў і інш. сваею якаснаю прыкметаю.

3) Не дапускаць зьяўленьня, нават у асобных мясцох ільносаломы, плесені, гніеньня і інш., што прыводзіць да страт гаспадарку і да псаваньня ўраджаю.

4) Забясьпечыць пасьпяховае правядзеньне працэсу мэханізацыі зьвязанага з сушкай, перавозкай і захаваньнем ільносаломы.

5) Дабівацца якасных паказчыкаў працы, рацыянальна і правільна зрабіць расстаноўку сіл, а праз сацыялістычныя мэтады працы дабіцца максымальнага яе ўшчыльненьня і высокага выкарыстаньня.



Расьцілка ільну ў калгасе імя „13 годзьдзе Кастрычн. рэвал."

## Снапавая сушка

Пры снапавой сушцы выцерабленыя лён сьціскаецца перавяслам, каля сярэдку снапа і гэтым парушаецца роўнамернасьць сушкі, колеру сьцяблоў і хуткасьць працэсу.

Паветра і цяпло неаднолькава ахапліваюць ўнутраныя і знадворныя часткі саломы снапа, што прыводзіць да неаднолькавай вільготнасьці масы, гніеньню і псаваньню ільносаломы ў сярэдку снапа.

Неабходна адзначыць асобны снапавы від сушкі у бабках, пры якім снапы састаўляюцца невялікай колькасьцю па 5—10 шт. і снапавую сушку распушчанымі снапамі, або сушку снапоў у форме конусаў, калі салома шырока расстаўляецца камлямі на зямлі, а ўверху галоўкамі разам.

Для зьмяншэньня недахопу пры снапавым способе сушкі ільносаломы неабходна абавязкова праводзіць вывaрачваньне саломы з унутры наверх, што ўпаўне магчыма пры рыхлай вязцы снапа і што значна ўхутчае працэс сушкі.

## Шатровая сушка

Пры гэтым способе сушкі выцерабленыя лён, пасьля папярэдняга правяліваньня ў расьцілу, у працягу $^1/_2$—1 сутак, састаўляецца галоўкамі ўверх разам, а камлі на зямлі на адлегласьці паміж сабой каля 0,5 мэтр., так, каб атрымалася па выгляду ўстойлівая двухскатная страха.

Для большай устойлівасьці шатроў і для большай хуткасьці працы, інагды гэту шатровую ўстаноўку ільну праводзяць да ўмацаваных на полі жэрдках, па вышыні 40—60 см у залежнасьці ад росту ільну, пакідаючы гэтую перакладзіну да канца сушкі.

Больш часта-ж устаноўку шатроў праводзяць не да стала замацаваных жэрдак, а да перакладзін, наложаных на рагулі з 2 канцоў, якія толькі ўтыкаюцца ў зямлю на час устаноўкі шатра.

Калі-ж шацёр будзе скончаны, дык перакладзіна выцягваецца, а рагулі пераносяцца на другое месца, для ўстаноўкі новага шатра і г. д.

Пры такім способе ўстаноўкі шатроў даўжыню іх рабіць больш 2—3 мэтраў не патрэбна, а для большай устойлівасьці і іх захаваньня ад дажджу зьверху шатра, па галоўкам патрэбна палажыць некалькі жмень лёну і зьвязаць іх перавяслам з крайнімі жменямі шатра з абодвух бакоў.

Напрамак шатроў рабіць суадпаведна з напрамкам галоўных вятроў данай мясцовасьці.

Сушка лёну ў шатрох, а асабліва пры пераварачваньні яго масы з унутранай стараны наружу, і пры ня тоўстым слоі сьценак шатроў праходзіць больш раўнамерна і больш хутка, чымся пры снаповай сушцы.

## Канусовая сушка

Пры гэтым способе, выцерабленыя лён машынамі без вязальнага апарату, а таксама і ручным спосабам, як і пры шатровай сушцы, папярэдне правяліваюць, а потым робяць устаноўку ў конусы.

Тэхніка ўстаноўкі вельмі простая, не патрабуе дадатковых прылад і пры маючымся тэхнічным навыку праводзіцца рабочымі даволі хутка.

Пастаўлены лён у правільныя і ўстойлівыя канусы нятоўстым слоем добра ахапліваецца і знутры і наружы цяплом і паветрам, а пагэтаму працэс сушкі пры гэтым спосабе праходзіць даволі разьмерна і хутка па ўсёй масе ільносаломы.

З арганізацыйнага боку гэты спосаб сушкі не патрабуе амаль больш рабочай сілы, чымся пры снапавой сушцы, а пагэтаму будзе зьяўляцца адным з лепшых спосабаў паветрана-сухой сушкі ільносаломы.

### Сушка расьцілам і жменямі

Сушка расьцілам тэхнічна вельмі простая. Пасьля церабленьня лёну, ён там жа на ільнішчы расьцілаецца тонкім слоем і застаецца ляжаць да канца сушкі, праводзячы пэрыядычнае пераварачываньне радкоў.

Гэты спосаб сушкі, сваей прастатой, як менш вымагальны на рабочую сілу, апошняй менш патрэбна, чымся нават пры снапавым спосабе, мэханізіраван, з увядзеньнем у практыку зараз запраектыраванага асобнага падбіральшчыка—заслугоўвае ўвагі з боку буйнай ільнаводнай гаспадаркі.

Адмоўным момантам пры гэтым спосабе сушкі зьяўляецца—гэта магчымае падаправаньне ільносаломы зьнізу, пры ляжаньні яе непасрэдна на зямлі, хаця і гэта зьявішча можа быць адхілена пры больш частым пераварачваньні радкоў. Жменны спосаб сушкі асаблівага значэньня ня мае.

### Пскоўскі спосаб сушкі

У паўночнай нашай частцы краіны, а асабліва ў гады з няўстойлівым надвор'ем і часта выпадаючымі дажджамі, прыбягаюць к так званаму Пскоўскаму спосабу сушкі, або сушкі ў астроўях.

Сутнасьць яго заключаецца ў тым, што лён пасьля церабленьня і папярэдняга кароткага 5—6 гадз. правяліваньня, або для даасушкі пасьля шатроў, канусоў і інш. спосабаў, паднімаецца і ўкладваецца ў астроўя.

Астроўя, або жэрдзі з тарчашчымі суччамі ўбіваюцца ў зямлю завостранымі і канцамі на адлегласьці паміж сабой у 0,75 м друг ад друга.

Паміж жэрдзямі праводзіцца ўкладка снапоў лёну, галоўкамі ўніз з абоіх бакоў астроўя і для больш рыхлага становішча праз кожныя 70—80 см укладваюцца асобныя жардзіны.

Астроўя падпіраюцца для большай устойлівасьці з бакоў асобнымі кольлямі.

На падставе дадзеных Валакаламскага дасьледчага поля, Пскоўскай дасьледчай станцыі і інш. устаноў, лепшыя паказчыкі даюць шатровая і канусовая сушкі, якія ў параўнаньні з снапавой павялічваюць якасьць валакна на 2,3—2,6 нумара, а выхад доўгага валакна на 0,21—0,3 цнт на га.

Адносна затраты рабочай сілы пры вызначаных спосабах сушкі, патрэбна адзначыць, што на конусавую сушку ідзе амаль столькі, скольки на звычайна снапавую.

Пры шатровай сушцы патрабуецца рабочай сілы некалькі больш, але ж гэта можа быць выраўнена правільнай арганізацыяй працы, умелай расстаноўкай сіл у гаспадарцы, пры ўжываньні сацыялістычных мэтадаў працы ў брыгадах—як паміж апошнімі, гэтак і ўсярэдзіне іх.



Сушка канапель у калгасе імя „13-годзьдзе Кастр. рэвал."

Такім чынам магчыма прысьці да наступнага вываду:

1) Сушка зьяўляецца адказьнейшым момантам у барацьбе за ўздым ураджайнасьці і зьнішчэньне страт у час уборачнай кампаніі.

2) Лепшымі спосабамі сушкі, забясьпечваючымі атрымаць больш колькасны і якасны ўраджай валакна, зьяўляецца—шатровая і канусавая сушка.

3) Пры прымяненьні снапавой сушкі, абавязкова праводзіць выварачваньне масы снапоў унутранай стараной наружу, ня менш 1—2 разоў.

4) Пры зьвязваньні снапоў, не дапускаць іх сьцісканьня перавеслам, а рабіць яго больш рыхлым для больш хуткай прасушкі, у форме спосаба сушкі распушчанымі снапамі.

5) Пры гаспадарчых магчымасьцях і асобных няспрыяючых знадворных умовах, у мэтах захаваньня ўраджаю, прымяняць і Пскоўскі спосаб сушкі ў астроўях.

### Сушка галовак

Пры поўнай сушцы ільна на полі, пытаньне аб сушцы галовак асобна ад сьцяблоў стаяць ня можа. У мачанцовых жа нашых раёнах, дзе часта недасушаны лён аддзяляецца ад галовак, ачосываецца, а інагда аддзяляюцца галоўкі зразу-ж з толькі што выцерабленага сырога лёну, а асабліва пры ўборцы яго ў раньнюю жоўтую сьпеласьць, калі галоўкі ўтрымліваюць ў сябе да 30 проц. вільготнасьці пытаньне сушкі галовак стаіць актуальна.

Пры такім становішчы галовак па вільготнасьці маецца большая пагроза па псаваньню насеньня і значных страт ураджаю.

Дзеля адхіленьня гэтай пагрозы па магчымых стратах насеньня ад няправільнай сушкі галовак, неабходна арганізаваць сушку ў спэцыяльных сушылках, еўнях, пад навесам, а пры адсутнасьці гэтага пад адчыненым небам у астроўях і скірдах.

Пры праходжаньні сушкі ў сушылках ці еўнях, трэба сурова сачыць за тэмпэратурай сушкі, не дапуская яе вышэй 40°, а асабліва для галовак з павышанай вільготнасьцю, убраных у зялёную сьпеласьць.

Сушка галовак пры тэмпэратуры звыш 40° моцна зьніжая ўсхожасьць насеньня, асабліва недасьпелых і вільготных.

К. А—ч.

# Зьнішчым страты ўраджаю ільну пры ачосе і абмалоце

Асноўныя запатрабаваньні, якія прад'яўляюцца ільнаачосваючым машынам, у мэтах рашучай барацьбы са стратамі ўраджаю будуць зьяўляцца наступныя.

1) Поўны і чысты ачос галовак ад сьцяблоў лёну.

2) Ачос галовак павінен быць без сьцяблоў, бо гэта павялічвае процант путаніны і зьмяншае выхад валакна.

3) Пры ачосе не дапускаць драбленьня і раскалываньня галовак, якія павінны быць адсартаваны і поўнасьцю ачышчаны ад сьмятнікоў.

4) Пры ачосе галовак, не дапускаць рашчапленьня і абрыў сьцябла.

5) Машына павінна поўнасьцю адказваць запатрабаваньням буйнай мэханізаванай гаспадаркі з яе найлепшай арганізацыяй і расстаноўкай рабочай сілы пры гэтым працэсе.

Машына „Гельштэйна" на патрабуе вялікай цягавай сілы, так што 1 трактар Інт. 10/20 НР можа рухаць 5—6 шт. адразу, пасрэдствам устаноўленай трансмісіі.

Пры ўстаноўцы машын да трансмісіі патрэбна даць ім роўнае па ўраўню месца, замацаваць без дзьвігаіх, вытрымаўшы адлегласьць машын ад трансмісіі ў 4—5 м, паставіўшы машыны пярэднім барабанам да трансмісіі, або барабанам з ударам зуб'яў зьверху ўніз. Перад пускам у ход машыны, яна павінна быць выверана і адрэгуліравана, а трушчыяся месца дасканала зьвязаны.

Для абслугоўваньня машыны патрэбна 6 чалавек, з якіх два чал. на падачы снапоў і прыёмцы іх ад машыны, два чалавекі па падносцы і ўборцы снапоў і вораха і два чалавекі на лёгкай апрацоўцы снапоў: падачы іх да машыны і адносу ад яе.

Пры агрэгатным спосабе работы 5—6 машынамі неабходна мець яшчэ мэханіка па абслугоўваньні машыны, трансмісіі і трактара, а ў выпадку няспраўнасьці машыны—патрэбен сьлесар для іх рамонту.

Вытворчасьць працы пры машыне апрадзяляецца ў сярэднім: 9 т саломы за 10-гадз., рабочы дзень пры 250 абаротах пярэдняга барабана ў мінуту. Машына „Гельштэйна" добра ачосвае ільносалому, нават пры вельмі высокай вільготнасьці яе, роўнай 30—40 проц.

Для зьмяншэньня страт, выходзячы з якасьці маючайся ільносаломы, неабходна правільна адрэгуліраваць палажэньне другога барабана да стала, карыстаючыся наступнымі ўказаньнямі:

З удаленьнем барабана ад стала да адказу путаніны памяншаецца з 6,3 проц. да 2,3 проц., умяншаюцца страты і па тэхнічнай даўжыне з 6,6 проц. пры самым блізкім находжаньні барабана да сталу, да 3,7 проц. пры самым далёкім знаходжаньні, зьмяншаецца ступень пашкоджаньня галовак з 5,8 пр. да 3,5 проц. Але ж пры гэтым удаленьні барабана некалькі паніжаецца чыстата ачосу галовак: з 0,7 пр. да 2,3 проц. пры самым далёкім палажэньні барабана і павялічваецца страты насеньня ў путаніне з 1,4 проц. да 3,8 проц.

### Машына Эддэі

Машына Эддэі ў мінулым годзе, а тым больш у гэтым 1932 г. побач з машынай Гельштэйна будзе мець самае шырокае распаўсюджаньне па нашым саўгасам і калгасам.

Асноўнай часткай машыны зьяўляюцца пара драўляных валікаў, дыямэтрам каля 24 см і даўжынёй да 44 см. Адзін з гэтых валікаў, вядучы, прыводзіцца ў рух ад шківа і рэмня, а другі валік вядомы і рухаючы ад церця з першым валікам.

Вядучы валік мае асобную спружыну, напружанасьць якой мажліва рэгуляваць нажымнымі балтамі. Па сваім цягавым супраціўленьням, машына з двума парамі валікаў можа прыводзіцца ў рух сіламі аднаго каня, а пагэтаму пры наліччы ў гаспадарцы моцнага рухавіка, як трактар, магчыма да адной трансмісіі прымацаваць да 10 шт. машын.

Устаноўку гэтага агрэгату неабходна праводзіць па ўсім існуючым правілам: даць машынам выраўнянае па ўраўню месца, забясьпечыўшы ўстойлівасьць машыны, разьмясьціць іх ад трансмісіі на адлегласьці, патрэбнай для нармальнай працы рэмня, разьлічваць перадачы і г. д.

Для абслугоўваньня адной машыны, патрэбна два чалавекі для абмалоту і два чалавекі для падноскі і падачы снапоў. Пры рабоце агрэгатам у 10 машын патрэбен адзін рабочы для адгортваньня вораха і путаніны ад машыны.

### Ручныя спосабы ачосу, ці абмалоту

Пры адсутнасьці ў гаспадарках паказаных машын прыдзецца карыстацца ручным спосабам па ачосу галовак.

Гэтыя спосабы вельмі прымітыўны па сваім працэсам. Ачос на грэбнях вельмі трудаёмак і патрабуе да 12—15 рабочых дзён на 1 *га* ураджая.

Гэтыя спосабы могуць выключна ўжывацца толькі пры поўнай немагчымасьці замяніць машынай ачос, ці абмалот.

Пры ручным абмалоце таксама прымяняюць зрэдку аджыўшыя спосабы, як валікі, бочкі, каткі і інш., якія патрэбна поўнасьцю замяніць у 1932 г. машынай Эддэі.

### Абмалот ачосаных галовак

Перад абмалотам неабходна адсартаваць галоўкі на веяльных, ці іншых спэцыяльна ўстаноўленых сітах, у мэтах дэталёвай ачысткі насеньня ад сьмятнікоў.

Пасьля адсартыроўкі галовак, апошнія пускаюцца для абмалоту на спэцыяльную машыну тыпа Шэнэля, або на звычайныя хлебныя малацілкі: простыя конныя і складана-трактарныя.

Шэнэлеўская машына добра спраўляецца з разламываньнем ільняных галовак, не прад'яўляя асобнага вымаганьня да іх вільготнасьці, але яна патрабуе добра аддзеленых галовак ад путаніны і розных буйных прымясей, якія могуць забіваць і псаваць машыну.

Відавочна, пасьля абмалоту галовак на машыне Шэнэля, ворах патрэбна пускаць для адвейваньня, сарціроўкі насеньня і г. д.

Пры добрай ачыстцы насеньня ад путаніны, машына можа за 8 гадзін абмалаціць да 6 тыс. галовак.

Пасьпяхова можа спраўляцца з працэсам абмалоту хлебная малацілкі, праўда, яна больш сухіх вымагае галовак, але-ж не баіцца путаніны. Пры камбіраваных малацілках праводзяць адразу і працэс адвейваньня насеньня ад мякіны.

К—ч.

# ТОЛЬКІ ПА ПРАЦАДНЕХ РАЗЬМЯРКОЎВАЦЬ УРАДЖАЙ

## Аб разьмеркаваньні даходаў і ўраджаю ў калгасах у 1932 г.

*(Пастанова калегіі НКЗ і Калгасцэнтру БССР)*

Рэзьмеркаваньне даходаў і ўраджаю ў калгасах у гэтым годзе павінна праводзіцца выключна па колькасьці і якасьці працы, затрачанай калгасьнікамі згодна запісаных у працоўныя кніжкі калгасьнікаў працадзён, у поўнай суадпаведнасьці з паказаньнем VI зьезду Саветаў аб тым, што „той, хто больш і лепш працуе, той больш і атрымлівае, хто не працуе, той нічога не атрымлівае“.

Для таго, каб яшчэ больш павялічыць свае даходы, усе калгасы і калгасьнікі павінны ўлічыць у часе ўборачнай кампаніі памылкі і недахопы, якія былі дапушчаны ў мінулым годзе, зрабіць належныя вынікі і паставіць перад сабой наступныя задачы:

а) дабіцца поўнага зьнішчэньня страт пры ўборцы і апрацоўцы ўраджаю.

б) максымальна зьнізіць адміністрацыйна гаспадарчыя і вытворчыя выдаткі, весьці сыстэматычную барацьбу за эканомнае выдаткаваньне і рацыянальнае скарыстаньне кармоў;

в) скарыстаць усе маючыяся магчымасьці для атрыманьня дадатковых даходаў шляхам разьвіцьця саматужных промыслаў, адыходных заробкаў і г. д.;

г) найбольш поўна і рацыянальна скарыстаць людзкую і цягавую сілу, шляхам умацаваньня вытворчых калгасных брыгад і правільнай расстаноўкай сілы ўнутры самой брыгады;

д) паставіць правільны ўлік працы і ўсяго зьбіраемага ўраджаю.

Пры выкананьні гэтых умоў, калгасы значна павысяць даходнасьць сваёй гаспадаркі, забясьпечаць поўнае выкананьне плянаў загатовак, шырока разгарнуць калгасны гандаль прадуктамі сельскай гаспадаркі і саматужнай прамысловасьці, забясьпечаць стварэньне неабходных фондаў накапленьня для пашырэньне калектыўнай гаспадаркі і павялічаць ацэнку працадня, і рост даходнасьці калгасьнікаў пры разьмеркаваньні даходаў.

### Агульны даход калгасаў і яго разьмеркаваньне.

1. Агульны даход калгасаў, які падлягае разьмеркаваньню, складаецца з усёй колькасьці атрыманай прадукцыі ад паляводзтва, гародніцтва, садоўніцтва, лугаводзтва, жывёлагадоўлі і іншых галін гаспадаркі, а таксама з грашовых даходаў ад падсобных прамысловых прадпрыемстваў і пабочных заработкаў. Даходы калгасьнікаў, атрыманыя на адыходных заработках, у даход калгасу ня ўключаюцца.

Кошт прадукцыі ўраджаю 1931 году, якая ня ўдзельнічала ў разьмеркаваньні даходаў мінулага году (неапрацаваны лён і іншае), уключаюцца ў даход калгасу ў 1932 годзе.

2. Пры падліку сумы агульнага даходу ў грашовым выразе, прадукцыя, рэалізаваная па загатоўках і ў парадку калгаснага гандлю, улічваецца па фактычнай выручцы, а прадукцыя, застаўляемая ў калгасе для патрэб гаспадаркі і падлягаючая разьмеркаваньню паміж калгасьнікамі—па загатоўчых дзяржаўных цэнах. У тым выпадку, калі ў калгасе застаецца прадукцыя, вылучаная для калгаснага гандлю, кошт яе арыентыровачна ўлічваецца па сярэднім рынкавым цэнам данай мясцовасьці.

3. У агульны даход ня ўключаюцца кошт прыплоду жывёлы, застаўляемай у гаспадарцы для пашырэньня калгаснага статку, кошт прыросту жывёлы, кошт набытых калгасам сродкаў вытворчасьці (рабочая і прадукцыйная жывёла, машыны і інвэнтар), кошт пабудаваных новых пабудоў і капітальнага рамонту.

4. З агульнага даходу калгасу падлягае разьмеркаваньню паміж калгасьнікамі:

а) харчавыя прадукты, збожжа, бульба, гародніна і іншае, за выключэньнем часткі, падлягаючай здачы (продажу) па загатоўкам, насеннага і страхавога фондаў;

б) кармы (збожжа, сілос, сена і іншае), за выключэньнем падлягаючых здачы (продажу) дзяржаве, вылучаных нармальных фондаў для таварных фэрм, конскага пагалоўя і іншай абагуленай жывёлы калгасу і недатыкальнага страхавога фонду кармоў;

в) грашовыя даходы калгасу, за выключэньнем запазычанасьці па крэдытах і абавязацельствах сельскагаспадарчага падатку, страхоўкі, сум, адлічаемых у непадзельны фонд і адлічэньняў у калгасныя касы грамадзкай узаемадапамогі.

5. Пры разьмеркаваньні даходаў 1932 году калгасы абавязаны стварыць непадзельны фонд у разьмеры 10—15 проц. ад агульнага даходу, за выключэньнем сельскагаспадарчага падатку, страхоўкі, плацяжоў па крэдытах, якія неабходна аплаціць у 1932 годзе, і каштоўнасьць насенных і фуражных фондаў.

6. Грашовыя выдаткі на капітальныя ўкладаньні (будаўніцтва, пакупка жывёлы, інвэнтару і іншае), якія ўтвораны па працягу 1932 году, залічаюцца ў кошт утвараемых адлічэньняў (10—15 проц.) у непадзельны фонд.

Астача сум, адлічаных у непадзельны фонд, уносіцца на бягучы рахунак калгасу ў Дзяржбанк па капіталаўкладаньням і выдаткоўваецца ў 1933 годзе, выключна па прамому прызначэньню.

7. Забараніць стварэньне якіх небудзь іншых фондаў і адмяніць 3-проц. адлічэньне для разьмеркаваньня па абагуленай маемасьці.

8. На раду з выкананьнем плянаў загатовак, ужо ў ходзе абмалоту калгасы павінны выдаць калгасьнікам авансы ў лік натуральнай часткі даходаў, у разьмеры 10—15 проц. фактычна абмалочанага хлеба, пры чым разьмеркаваньне хлеба праводзіць выключна па выпрацаваным калгасьнікамі працадням, пачынаючы з 1 студзеня 1932 году.

9. У тых калгасах, дзе гэта будзе прызнана неабходным самімі калгасьнікамі, праводзіць выдачу авансаў у лік натуральнай часткі даходаў у разьмерах 15—20 проц. прадукцыі, падлягаючай разьмеркаваньню паміж калгасьнікамі, згодна папярэдняга пляну разьмеркаваньмя.

10. Не дапускаць затрыманьня ў выдачы грашовай часткі даходу калгасьнікам да канчатковага разьмеркаваньня даходу, устанавіўшы такі парадак, каб асноўная частка грошай, што атрымліваюцца калгасам за зданую (праданую) ім прадукцыю, выдавалася калгасьнікам у парадку авансу па колькасьці выпрацаваных імі працадзён.

### Устанаўленьне ацэнкі працадня

1. Для таго, каб зацікавіць кожную брыгаду, кожнага калгасьніка і калгасьніцу ў выніках работы, усе калгасы абавязаны няўхільна выконваць пастанову СНК СССР і ЦК УсеКП(б) ад 5 ліпеня г. г. аб тым, што „у залежнасьці ад якасьці работы брыгады (разьмеры страт, тэрміны ўборкі, абмалот і вывазка хлеба і тэхнічных культур) ацэнка каштоўнасьці працадня (альбо колькасьць выпрацаваных працадзён) для брыгады і брыгадзіраў павышалася або паніжалася праўленьнем калгасу ў межах ад 10 да 20 процантаў".

2. Пасьпяховасьць работы брыгады ўстанаўліваецца фактычна сабраным ураджаем з га, атрыманым удоем малака ад каровы, колькасьцю вырашчаных парасят, цялят і іншай жывёлы, а таксама разьмерам усей прадукцыі, атрыманай брыгадай з замацаванага за ёй вытворчага вучастку, таварнай фэрмы і іншых галін гаспадаркі.

Асаблівая ўвага пры ацэнцы пасьпяховасьці работы брыгады павінна быць зьвернута на якасьць работы брыгады, ужываньне агратэхнічных і зоотэхнічных мерапрыемстваў, якасьць ухода за жывёлай і сапраўдную барацьбу са стратамі, адыходам жывёлы і іншае.

3. Праўленьне калгасу пры непасрэдным удзеле брыгадзіра абгаварвае вынікі работы кожнай паасобнай брыгады і ўстанаўлівае ў залежнасьці ад гэтага ацэнку працадня, альбо павялічэньне ці зьніжэньне колькасьці працадзён для кожнай брыгады і брыгадзіра.

Вынікі работы брыгад і вызначаная праўленьнем ацэнка працадня, альбо павялічэньне ці зьніжэньне колькасьці працадзён для брыгады абгаварваюцца на вытворчых нарадах і канчаткова зацьвярджаюцца агульным сходам калгасьнікаў.

4. Для таго, каб устанавіць павялічэньне або паніжэньне ацэнкі працадня для паасобных брыгад і брыгадзіраў, праўленьні калгасаў павінны вылічыць сярэднюю каштоўнасьць працадня па калгасу ў цэлым.

Сярэдняя ацэнка працадня па калгасу ў цэлым вызначаецца сумай даходу, падлягаючага разьмеркаваньню паміж калгасьнікамі, падзеленай на ўсю колькасьць налічаных калгасьнікам працадзён за 1932 г.

5. Да вылічэньня сярэдняй ацэнкі працадня па калгасу ў цэлым з сумы даходу, падлягаючай разьмеркаваньню паміж калгасьнікамі, вылічваецца сума выдаткаваньня на працягу году на даплату сьвінарам за здачу таварнай прадукцыі і захаваньне парасят.

6. Калі сярэдняя ацэнка працадня ў калгасе ўстаноўлена Саветам МТС цьвёрдага гарантыраванага мінімуму аплаты працадня для трактарыстаў МТС, то да вылічэньня сярэдняй ацэнкі працадня з сумы даходу, падлягаючага размеркаваньню паміж калгасьнікамі, вылічваецца сума даходу, прыпадаючая на працадні трактарыстаў, выпрацаваныя імі ў гэтым калгасе на трактарах МТС.

7. Калі праўленьне калгасу ўстанаўлівае брыгадзе павялічэньне і паніжэньне працадзён да асноўнай колькасьці выпрацаваных калгасьнікамі брыгады на працягу году, гэтыя працадні павінны разьмяркоўвацца ўнутры брыгады паміж асобнымі калгасьнікамі з улікам якасьці работы кожнага калгасьніка, яго ўдзелу ў рабоце ў напружаныя пэрыяды работ (пасеў, праполка і ўборка, захаваньне ў добрым выглядзе прымацаваных да яго коняй і інвэнтару і іншае).

Катэгарычна забараніць ураўніцельнае разьмеркаваньне надбаўленай ці зьніжанай колькасьці працадзён брыгадзе, паміж усімі калгасьнікамі брыгады.

### Разьмеркаваньне натуральнай часткі даходаў

Натуральная частка даходаў у калгасах разьмяркоўваецца наступным чынам:

1. У першую чаргу калгас выконвае плян дзяржаўных загатовак па збожжавым, тэхнічным культурам, бульбе, фуражу і іншым відам прадукцыі.

2. Адлічваецца адпаведная колькасьць збожжа для пагашэньня насенных і харчавых пазык мінулых гадоў у тых калгасах, якія атрымлівалі пазыкі.

3. Вылучаецца насенны фонд для забесьпячэньня пасеўных плошчаў згодна плянаў на асеньнюю сяўбу 1932 г. і веснавую сяўбу 1933 г. з улікам пашырэньня пасеўных плошчаў на 10—12 проц., забясьпечыўшы ссыпку лепшага па якасьці насеньня і вылучаецца страхавы насенны фонд яравых культур у разьмеры 10—15 проц. насеннага фонду.

4. Вылучаецца фуражны фонд грубых, канцэнтраваных і сакавітых кармоў для поўнага забесьпячэньня кармамі конскага пагалоўя, таварных калгасных фэрм і іншай грамаджанай жывёлы да новага ўраджаю і ствараецца недатыкальны страхавы фонд кармоў (сена, салома, мякіна) у разьмеры ня менш 15 проц. гадавой патрэбнасьці.

5. Усе астатнія прадукты разьмяркоўваюцца паміж калгасьнікамі па колькасьці выпрацаваных імі з запісаных у працоўныя кніжкі працадзён.

Забараніць якое-бы то ні было абмежаваньне разьмеру выдачы натуральнай часткі даходу лепшым калгасьнікам, працуючым па сельскай гаспадарчай вытворчасьці і выпрацаваўшым найбольшую колькасьць працадзён.

6. Рэкамэндаваць калгасам у адносінах да добрасумленна працуючых калгасьнікаў, якія маюць вялікую колькасьць непрацаздольных членаў сям'і, практыкаваць павышаную выдачу натурай у лік належачых ім даходаў па працаднёх, пры адпаведным зьніжэньні грашовай часткі даходаў.

7. Пытаньне аб стварэньні харчавога фонду для арганізацыі арцельнага харчаваньня калгасьнікаў у час палявых работ, а таксама разьмер, парадак яго стварэньня—вырашаецца агульным сходам калгасьнікаў.

8. Пры разьмеркаваньні фуражу павінна ўлічвацца наяўнасьць жывёлы ў калгасьнікаў з тым, каб калгасьнікі, якія не атрымліваюць фонду, або атрымліваюць яго менш, узамен гэтага атрымалі-б іншыя віды натуральнай прадукцыі, ня выходзячы аднак за межы ўстаноўленага ў даным калгасе разьмеру натуральных выдач на працадзень.

9. Адміністрацыя, кіруючы і рахункаводны апарат калгасаў, незалежна ад колькасьці выпрацаваных імі працадзён, ня можа атрымаць харчовага збожжа і іншых прадуктаў больш той колькасьці, якую ў сярэднім атрымалі ў адным калгасе калгасьнікі сталай брыгады, што добрасумленна выконваюць на працягу году ўсе даручаныя ім работы. Каштоўнасьць недапалучанай натуральнай часткі даходаў па выпрацаваных адміністрацыйна-кіруючымі работнікамі працадзён кампэнсуецца грашыма.

10. Пры разьмеркаваньні натуральнай часткі даходаў па працаднёх уключаюцца і працадні, выпрацаваныя трактарыстамі, членамі данага калгасу на

трактары МТС, як у сваім калгасе, так і ў іншых калгасах.

Калі сума кошту прадуктаў, атрымліваемых трактарыстамі па працаднёх, перавышае суму даходаў, якія прыпадаюць на працадні, выпрацаваныя ім у калгасе, членам якога ён састаіць, дык трактарыст уплачвае розьніцу свайму калгасу грашыма па дзяржаўных загатоўчых цэнах.

**Разьмеркаваньне грашовай часткі даходаў**

Грашовая частка даходаў у калгасах разьмяркоўваецца наступным чынам:

1. У першую чаргу з грашовых даходаў калгасу ўтвараюцца:

а) усе плацяжы па крэдытах, якія трэба пагасіць у 1932 годзе, аплата сельска-гаспадарчага падатку, страхоўкі і іншых абавязацельстваў калгасу;

б) набыцьцё акцый Трактарацэнтру;

в) аплата МТС за ўтвараемыя работы;

г) адлічэньне ў непадзельны фонд.

2. Акрамя таго з грашовых даходаў калгасу адлічваюцца:

а) усе зробленыя на працягу году вытворча-гаспадарчыя і адміністрацыйныя выдаткі. Сумы, якія адлічваюцца з даходаў таварных фэрм на прэміяваньне і на зоатэхнічнае абслугоўваньне фэрм, а таксама сродкі, што ўносяцца ў калгасаюз на ўтрыманьне калгассаюзаў, уключаюцца ў вытворча-гаспадарчыя і адміністрацыйныя выдаткі;

б) сума даходаў, якая прыпадае на працадні трактарыстаў МТС, выпрацаваная імі на трактары па ўстаноўленаму для іх гарантыраванаму мінімуму. (У тых калгасах, дзе ацэнка працадня ніжэй гарантыраванага мінімуму для трактарыста);

в) сумы, выплачаныя на працягу году сьвінарам за выкананьне плянаў па здачы прадукцыі і захаваньне парасят.

3. Уся астатняя сума грашовых даходаў пасьля паказаных адлічэньняў разьмяркоўваецца паміж калгасьнікамі (дадаецца да сумы кошту прадукцыі, атрыманай па працаднёх) у адпаведнасьці з устаноўленай ацэнкай працадня.

**Улік даходаў і праверка запісаў працадзён**

1. Праўленьні калгасаў павінны не пазьней 30-га жніўня правесьці дэталёвую праверку ўліку працадзён і запісу іх у працоўныя кніжкі калгасьнікаў за ўвесь пэрыяд работ з пачатку году з тым, каб кожны калгасьнік добра ведаў колькасьць выпрацаваных ім працадзён.

2. Для правядзеньня гэтай работы ў кожным калгасе арганізаваць праверачныя камісіі ў складзе старшыні праўленьня калгасу, старшыні рэвізійнай камісіі, двух калгасьнікаў, якія абіраюцца агульным сходам з брыгадзірам тэй брыгады, працадні якой правяраюцца.

Камісія правярае ці сваячасова і правільна налічваюцца калгасьнікам працадні за выкананую работу, ці сваячасова запісваюцца ў працоўныя кніжкі і ці не перавышае агульная колькасьць працадзён налічаныя ўсёй брыгадзе той колькасьці, якая ўстаноўлена па вытворчым заданьні.

Пасьля праверкі складаюцца сьпісы калгасьнікаў па брыгадах з паказаньнем колькасьці выпрацаваных кожным калгасьнікам паасобку працадзён з пачатку году і вывешваюцца на відных мясцох ва ўсіх паселішчах калгасу, а таксама шырока абмяркоўваюцца вынікі ўдзелу калгасьнікаў у веснавой сяўбе, праполцы, уборцы, жывёлагадоўлі і будаўніцтве на агульным сходзе калгасьнікаў.

3. Абавязаць рэвізійныя камісіі калгасаў зрабіць да 30 жніўня праверку паступленьня і выдаткаваньня сродкаў і прадуктаў, правільнасьць і сваячасовасьць запісаў па кнігах, выявіць запазычанасьць калгасаў па атрыманых крэдытах, сваячасовае пагашэньне плацяжоў па крэдытах, па набыцьці акцый Трактарацэнтру і г. д., праверыць таксама запазычанасьць розных установ і арганізацый калгасу за рэалізаваную прадукцыю, праверыць запіс выдадзеных калгасьнікам авансаў як грашыма, так і натурай і правільнасьць выдачы іх па працаднёх. Вынікі праверкі абгаварыць на пасяджэньнях праўленьняў і агульных сходах калгасьнікаў.

4. Абавязаць праўленьні калгасаў наладзіць у час правядзеньня ўборачнай кампаніі дасканалы і поўны ўлік зьбіраемага ўраджаю з вытворчага вучастку кожнай паасобнай брыгады па кожнай культуры, арганізаваць дасканалы ўлік колькасьці ўраджаю ў кожным паасобным памяшканьні (гумнах, сьвірнах, скляпох, буртах і т. д.).

5. Не пазьней 15 кастрычніка гэтага году ва ўсіх калгасах павінны быць складзены папярэднія пляны разьмеркаваньня даходаў, на аснове дакладных падлікаў ужо сабранага ўраджаю атрыманых даходаў і папярэдніх падлікаў астатняй часткі ўраджаю і ўсіх даходаў, якія калгас мяркуе атрымаць да 1-га студзеня 1933 году.

6. Складаныя папярэднія пляны разьмеркаваньня ўраджаю і даходаў шырока абгаварваюцца на вытворчых брыгадах і на агульных сходах калгасьнікаў.

7. Абавязаць калгассаюзы не пазьней 1-га сьнежня 1932 году падвесьці вынікі папярэдняга разьмеркаваньня даходаў па ўсіх калгасах раёну на аснове складзеных у калгасах папярэдніх плянаў разьмеркаваньня, і даслаць у Калгасцэнтр БССР.

**Канчатковае разьмеркаваньне і разьлік з калгасьнікамі.**

1. Калегія НКЗБ і праўленьне Калгасцэнтру абавязваюць райза, праўленьні калгассаюзаў і калгасаў да 15 студзеня 1933 году поўнасьцю скончыць разьмеркаваньне даходаў ва ўсіх калгасах, для чаго:

а) канчаткова ўдасканаліць разьмеры агульнага даходу калгасаў і ўсіх утвораных расходаў;

б) удасканаліць разьмеры адлічэньняў у непадзельны фонд на аснове фактычна атрыманага даходу;

в) поўнасьцю пакрыць усе абавязковыя плацяжы і абавязацельствы (па сельскагаспадарчым падатку, крэдытах, страхоўцы, акцыях Трактарацэнтру і г. д.);

г) дакладна праверыць і падлічыць колькасьць працадзён, выпрацаваных калгасьнікамі на працягу 1932 году;

д) устанавіць на аснове падліку і якасьці ўтвораных работ пасьпяховасьць работы кожнай паасобнай брыгады, а таксама павышэньне і паніжэньне ацэнкі працадня альбо колькасьць працадзён для паасобных брыгад.

2. У разьмеркаваньні даходаў 1932 году ўдзельнічаюць усе працадні, якія выпрацаваны калгасьнікамі з 1 студзеня 1932 году па 31 сьнежня 1932 году на ўсіх работах калгасу, у тым ліку па асеньняй сяўбе і зяблівым ворыве.

У тых калгасах, якія арганізаваліся пасьля ўборачнай кампаніі 1931 году і якія ўтварылі калектыўна толькі азімую сяўбу і зяблевае ворыва і ня мелі ў 1931 годзе ніякіх грашовых даходаў, выпрацаваныя калгасьнікамі працадні на гэтых работах удзельнічаюць у разьмеркаваньні даходаў 1932 г.

3. Да 1-га лютага 1933 году ва ўсіх калгасах павінны быць закончаны поўнасьцю разьлікі з калгасьнікамі па разьмеркаваньні даходаў 1932 году, поўнасьцю выдзелены калгасьнікам належачыя і харчовыя прадукты, фураж і грошы.

4. Пры ўтварэньні канчатковых разьлікаў з калгасьнікамі павінны быць улічаны ўсе выдадзеныя на працягу 1932 году авансы як натурай так і грашыма.

5. Прапанаваць праўленьням калгассаюзаў не пазьней 15 лютага 1933 году прадставіць у Калгасцэнтр БССР канчатковую справаздачу па выніках разьмеркаваньня даходаў па ўсіх калгасах раёну.

### Арганізацыйна-масавыя прадпрыемствы

1. У мэтах забесьпячэньня сваячасовага і правільнага разьмеркаваньня даходаў і ўраджаю ў калгасах, належнага кіраўніцтва калгасамі па падрыхтоўцы і правядзеньню разьмеркаваньня даходаў, калегія НКЗБ і праўленьне Калгасцэнтру БССР абавязываюць усе райза, праўленьні калгассаюзу і МТС правесьці наступныя мерапрыемствы:

а) на працягу з 15 па 25 жніўня правесьці ва ўсіх раёнах 1-2-дзенныя курсы-канфэрэнцыі старшынь калгасаў для дэталёвай прапрацоўкі прынцыпаў і парадку разьмеркаваньня даходаў і ўраджаю ў 1932 годзе;

б) не пазьней 15 жніўня правесьці ва ўсіх раёнах нарады старшынь рэвізійных камісій калгасаў, на якіх абгаварыць як прынцыпы і парадак разьмеркаваньня даходаў, так і задачы рэвізійных камісій у справе правільнай пастаноўкі ўлікі працы і ўсёй гаспадарчай дзейнасьці калгасу;

в) арганізаваць шырокую прапрацоўку пастановы калегіі НКЗ і праўленьня Калгасцэнтру аб разьмеркаваньні даходаў у брыгадах і на агульных сходах калгасьнікаў, для чаго калгассаюзам і МТС забясьпечыць пасылку работнікаў у калгасы для правядзеньня гэтай работы;

г) у другой палове жніўня гэтага году правесьці ва ўсіх раёнах—2-3-дзенныя курсы-канфэрэнцыі рахункаводаў калгасаў для прапрацоўкі парадку складаньня плянаў разьмеркаваньня даходаў за 1932 год.

2. Наркамзем і Калгасцэнтр абавязваюць калгассаюзы, райза і МТС для аказаньня рэальнай дапамогі праўленьням калгасаў і кіраўніцтва падрыхтоўкай і правядзеньнем разьмеркаваньня даходаў і ўраджаю, прымацаваць да групы 5—7 калгасаў па адным работніку з кіруючага складу зямельнага аддзелу, калгассаюзу, МТС і іншых раённых арганізацый з тым, каб гэтыя работнікі заставаліся ў калгасах да поўнага сканчэньня работ па разьмеркаваньні даходаў у вызначаныя тэрміны.

3. Даручыць райза, калгассаюзам і МТС забясьпечыць шырокі ўдзел і дапамогу ў разьмеркаваньні даходаў у калгасах з боку настаўнікаў, рахунковых работнікаў раёну, сельсаветаў, селькаапэрацыі і іншых культурных сіл раёну і вёскі.

4. Абавязаць праўленьні калгасаў і калгассаюзаў забясьпечыць такі парадак, каб паступаючыя ад калгасьнікаў скаргі на няправільна праведзеныя з імі разьлікі былі-б уважліва разгледжаны на працягу ня больш 3—5 дзён і па іх былі-б прыняты адпаведныя меры.

5. Абавязаць райза і калгассаюзы вылучыць у кожным раёне па аднаму калгасу, у якім правесьці ў першую чаргу работу па папярэднім разьмеркаваньні даходаў з тым, каб на яго вопыце арганізаваць работу ў астатніх калгасах раёну.

6. Наркамзем і Калгасцэнтр БССР папярэджваюць райза, калгассаюзы і МТС, што дастатковае праводзеньне растлумачальнай работы, падмена самадзейнасьці саміх калгасных мас голым адміністраваньнем, несваячасовае правядзеньне разьмеркаваньня даходаў і разьлікаў з калгасьнікамі, памылкі і скажэньні ў разьмеркаваньні даходаў будуць разглядацца як злачынства, накіраванае на зрыў справы па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў у іх арцельнай форме, як дапамога кулаку ў яго рабоце, накіраванай супроць калгаснага будаўніцтва.

Намесьнік Народнага Камісара
Земляробства БССР **Масюкоў.**

Намесьнік Праўленьня
Калгасцэнтру БССР **Стрэле.**



Ворыва пад жыта ў калгасе „Бальшавік“.

# Аграпаход праводзіць вакол канкрэтных задач

У пастанове сакратарыяту ЦК КП(б)Б зусім ясна сказана, што аграпаход неабходна праводзіць „вакол канкрэтных задач па праполцы і ўборцы ураджаю, доглядзе за жывёлай і захаваньні маладняка", разгортваючы, адначасова, масавую агразоатэхнічную вучобу рабочых саўгасаў, МТС і калгасьнікаў пад лёзунгам „кожная вытворчая брыгада—гурток агра або зоатэхнікі".

З часу апублікаваньня гэтай пастановы прайшло ўжо некалькі месяцаў. Мінулі такія важнейшыя кампаніі як злучка ў жывёлагадоўлі, праполка, сенаўборка, уборка азімых і раньніх яравых.

Аднак трэба адзначыць, што ў пераважнай большасьці раёнаў не ацанілі важнасьці аграпаходу і не разгарнулі барацьбы за пасьпяховае яго правядзеньне. Аграпаход ня стаў ісходным пунктам барацьбы за масавае аўладаньне агразоатэхнікай.

Гэтая недаацэнка масавай агратэхнічнай прапаганды, бязумоўна, зьяўляецца аднэй з прычын нездавальняючага правядзеньня праполачнай кампаніі, значнай зацяжкі сенаўборкі.

Ігнараваньне агратэхнікі так-жа значна дало сябе адчуць і пры правядзеньні ўборкі.

Цэнтральная задача ўборкі—барацьба са стратамі ў многіх калгасах саўгасах ня стала асноўным зьвяном уборачнай кампаніі.

Галоўнымі мерапрыемствамі для зьнішчэньня страт пры ўборцы зернавых зьяўляецца, перш за ўсё, своечасовая падрыхтоўка да ўборкі, прыстасаваньне да жняярак зернаўлавіцеляў, скірдаваньне і звоз снапоў адразу-ж пасьля сушкі і безадкладны абмалот ураджаю. Акрамя гэтага, значнае захаваньне збожжа дае зграбаньне каласоў, начная перавозка, перавозка ў прыстасаваных арбах (можна проста звычайную цялегу падаслаць пасьцілкай), зьнішчэньне мышэй у амбарах і г. д. Аднак, гэтыя абавязковыя мерапрыемствы ў часе ўборкі ня ўжываліся ў большасьці калгасаў.

Акрамя таго ёсьць факты несвоечасовага давядзеньня да калгасаў плянаў уборачнай кампаніі. Як прыклад можна прывесьці Зарэцкі сельсавет, Плешчаніцкага раёну, дзе на 1 жніўня пляны ўборкі яшчэ ня былі даведзены да калгасаў у той час, як уборка ў калгасах пачалася 20 ліпеня.

На гэтай глебе вядзецца ўпартая агітацыя клясавага ворага і яго агентуры ўнутры калгасаў. Вось у калгасе „Чырвоны ўдарнік", Ялагінскага сельсавету, Віцебскага раёну, вельмі марудна праходзіла ўборка сена, таму што брыгадзір на сенаўборцы Баўтута гаварыў калгасьнікам: „Што нам глядзець на пастановы, калі і пазьней месяцам скосім, сена ня страціць якасьць".

Праграма агразоапаходу ставіць зусім ясна задачу прыстасаваньня зернаўлавіцеляў да ўсіх абсалютна жняярак. Але па маючыхся вестках гэтае каштоўнае мерапрыемства ня ўсюды скарыстоўваецца. Такое ганебнае ігнараваньне аднаго з шляхоў барацьбы са стратамі тлумачыцца бюрократычнымі адносінамі да гэтай справы з боку рада раёнаў. Калі напрыклад запыталі старшыню райкалгассаюзу (Веткаўскі р-н) аб тым, што ім зроблена для прымяненьня ў калгасах раёну зернаўлавіцеляў да жняярак, ён даў адказ: „Думаю адкласьці гэтую справу да будучага году".

У тых раёнах, дзе да гэтай справы аднесьліся сур'ёзна, ёсьць рэальныя вынікі. Мсьціслаўская МТС ўявіла важнасьць гэтага каштоўнага мерапрыемства і вылучыла брыгаду з 6 чалавек для выпрацоўкі зернаўлавіцеляў. За два дні брыгада зрабіла 40 штук і абавязалася забясьпечыць усе жняяркі раёну зернаўлавіцелямі.

Другі прыклад. Калгасы Дварэцкага і Пабадаўскага сельсавету, Рагачоўскага раёну, якія належным чынам падрыхтаваліся да ўборкі—забясьпечылі ўсе жняяркі зернаўлавіцелямі і гэтым захавалі па 15—30 *кг* збожжа на кожны га.

Прыкладна такое-ж становішча мы маем і са скірдаваньнем.

Цікава адзначыць выступленьне т. Сімакова, брыгадзіра брыгады № 3 калгасу „Авангард", Кабыльніцкага сельсавету, Лёзьнянскага раёну. Праз сваю раённую газэту „Ленінскі сьцяг" т. Сімакоў дзеліцца вопытам работы сваёй брыгады. Ён піша, што асноўныя памылкі леташняга году—нерацыянальнае скарыстоўваньне рабочай сілы, адсутнасьць зьдзельшчыны, позьнія выхады на работу—у ягонай брыгадзе ў гэтым годзе ліквідуюцца.

Галоўную ўвагу ў гэтым годзе брыгада тав. Сімакова і гэты калгас зьвяртаюць на якасьць уборкі і на барацьбу са стратамі. Да ўборкі прыступлена зразу-ж як стала пасьпяваць жыта, 22 ліпеня. Брыгада, што працуе на жніве, зразу-ж вяжа снапы і ставіць у бабкі. Норма—8 чал. за дзень павінны зжаць, зьвязаць і паставіць у бабкі 1 га. Пасьля складкі снапоў у бабкі вытвараецца аграбаньне каласоў коннымі граблямі.

Складвае калгас снапы ў капякі і ў рамы. Тав. Сімакоў падкрэсьлівае, што складваць лепш у рамах, бо тут са снапоў сьцякае ўся вада, а пасярэдзіне ёсьць вялікі доступ паветра.

Калі збожжа падсохне, яно звозіцца ў такі. Перавозіць лепш усяго пад вечар, каб меней абсыпалася. А для захаваньня зярна трэба падсьцілаць калёсы падсьцілкай.

„Патрэба,—піша т. Сімакоў,—ачысьціць зямлю каля дзьвярэй такоў, каб можна была сабраць высыпаўшае зярно".

Зразумела, што правядзеньне ўборкі згодна запатрабаваньняў агратэхнікі магчыма толькі пры правядзеньні ўсёй работы па аснове сапраўднай зьдзельшчыны, пры шырокім укараненьні ў працу сацыялістычных мэтадаў—сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Вялікую ролю адыгрывае ў часе ўборкі ўдзел усёй савецкай грамадзкасьці ў рабоце саўгасу і калгасу. Шэфствуючыя калектывы павінны дапамагчы сваім падшэфным калгасам.



Сяўба азімых у калгасе Першага Мая.

Мы маем прыклады актыўнай дапамогі рабочых калектываў калгасам пасылкай брыгад па рамонце інвэнтара і машын пры непасрэднай дапамозе ў правядзеньні ўборачнай і другіх кампаній.

Так, польскаму нацыянальнаму калгасу „Орка“, Бабруйскага раёну, вялікую дапамогу пры ўборцы аказалі шэфы з арцелі „Чырвоны мэталіст“ і рабочыя шклозаводу „Камінтэрн“, які стаяў на рамонце. Працуючы на полі поплеч з рабочымі—калгасьнікі пераня́лі ад іх мэтады работы—сацыялістычнае спаборніцтва.

Але дапамога шэфскіх арганізацый пакуль што яшчэ зьяўляецца ў большасьці ў дапамозе адрамантаваць інвэнтар або правесьці тую ці іншую гаспадарчую работу. Неабходна дабіцца таго, каб шэфы зьяўляліся насіцелямі працоўнай культуры ў калгас. Шэфы павінны арганізоўваць у сваіх падшэфных калгасах гурткі вывучэньня агразоатэхнікі і тэхнікі машын і штодзенна дапамагаць гэтым гурткам праводзіць сваю работу.

Праграма аграпаходу зьвяртае ўвагу ўсіх арганізацый і асабліва МТС, саўгасаў і калгасаў на неабходнасьць выпрацаваць плян укараненьня агратэхнікі ў часе той ці іншай гаспадарчай кампаніі. Аднак пакуль што мы яшчэ ня маем зьвестак аб выкананьні гэтага пункту.

Таксама нявыканана праграма аграпаходу і ў частцы культурнага абслугоўваньня рабочых саўгасаў, МТС і калгасьнікаў. Становішча бібліятэк амаль нідзе не правяралася. Галосныя чыткі газэт практыкуюцца далёка ня ўсюды.

Неабходна зараз-жа зьвярнуць належную ўвагу на гэты важнейшы адстаючы вучастак барацьбы за ўраджай.

Безадкладна трэба ўзяцца за наладжваньне нармальнай работы насьценгазэт. Шмат фактаў гавораць аб тым, што там, дзе насьценгазэта становіцца на чале мас, вытворчая работа праводзіцца пасьпяхова і перамога забясьпечана. Так, калгас „Пралетары“, Пухавіцкага раёну, здолеў справіцца з уборкай таму, што насьценгазэта ўзначаліла барацьбу мас за пасьпяховую ўборку; таму, што насьценгазэта многа працавала над укараненьнем у калгасе сацыялістычных мэтадаў работы; таму, што на раду з праўленьнем насьценгазэта ўключылася ў барацьбу за ўраджай, за стварэньне моцных брыгад з пастаянным складам калгасьнікаў.



Авёс на асушаным балоце вырас у стан чалавека (Чырвонаармейск. камуна, Полацкі раён).

Калгас „Шлях да сацыялізму“, Гладанскага сельсавету, Лёзьнянскага раёну стварыў моцныя брыгады, увёў сапраўдную зьдзельшчыну, па-бальшавіцку разгарнуў барацьбу за ўраджай, за агратэхніку. На 23 ліпеня калгас скасіў 208 га сенакосу; з якіх 202 га зьвезена ў гумны, заклаў 13 тон сіласу, угнаіў 43 га поля і разгарнуў уборку збожжа і тэхкультур.

У выніку гэтых гаспадарчых дасягненьняў калгасу, аднаасобнікі—бедчякі і серадн́які сталі падаваць заявы аб прыёме іх у калгас.

Такія-ж факты прыліву ў калгасы, дзякуючы добра наладжанай работы, маюць месца і ў Кушлікоўскім і Замшанскім сельсаветах, Полацкага раёну. У часе разгортваньня ўборкі за некалькі дзён у калгасы Кушлікоўскага сельсавету ўступіла 16 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. У калгас „Акцябр“ Замшанскага сельсавету ўступіла 4 гаспадаркі і г. д.

Цяпер трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на арганізацыю агратэхнічных гурткоў, па наладжваньні іх нармальнай рабоце, на шырокі масавы абмен вопытам саўгасаў, МТС, калгасаў і брыгад. Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на работу камсамольскіх двароў высокага ўраджаю, на работу маладзежных брыгад „дагнаць і перагнаць“.

**Аграпаход павінен** быць магутным сродкам барацьбы за агратэхнічную пісьменнасьць калгасьнікаў і рабочых сельскай гаспадаркі. Аграпаход павінен праводзіцца „вакол канкрэтных задач па лепшым доглядзе жывёлы і маладняка, правядзеньні ўборачнай кампаніі, асеньняй сяўбы і зяблевага ворыва“ (з пастановы сакратарыяту ЦК). І чым лепш, чым дасканалей мы ўлічым урокі ўборачнай тым з большым посьпехам зможам праводзіць аграпаход у часе асеньняй сяўбы зяблівага ворыва.

**А. Турэцкі.**



Збор гуркоў у калгасе „Чырвоны гароднік“ (пад Менскам).

# Барацьба за корм—барацьба за разьвіцьцё сацыялістычнай жывёлагадоўлі

## Забясьпечыць кармамі жывёлу

Сіласная кампанія адыгрывае вялізнае значэньне ў справе забясьпечаньня сацжывёлагадоўлі сочнымі сіласнымі кармамі. Сілас—рашае посьпех малочна-таварных фэрм у галіне падтрымкі сытнасьці жывёлы і выхаду малочна-таварнай прадукцыі.

Таму задача малочна-таварных фэрм саўгасаў з жывёлагадоўчым напрамкам змагацца за 80 тыс. тон сіласу з тым, каб дабіцца здачы малочнай прадукцыі 16 тыс. літраў, мяса 400 тон. Дабіцца сярэдняга гадавога ўдою малака з каровы 1 тыс. 500 літраў. А гэта магчыма дабіцца тады, калі жывёла будзе забясьпечана на 100 проц. сакавітымі кармамі—сіласам, і грубымі канцэнтраванымі кармамі—правільным і добраякасным доглядам.

Каб выканаць гэту задачу, неабходна скарыстаць усе магчымасьці, скарыстаць усе мясцовыя рэсурсы, каб выканаць плян сіласаваньня.

Сьмяцьцёвыя травы, лісты з дрэў (ясеню, клёну, дуба і іншых лісьцьвенных дрэў), батва з бульбы, лісты і кочкі з капусты, другі ўкос сенажацяй—усё гэта магчыма скарыстаць пад зялёны корм для жывёлы.

Каб улічыць прабелы мінулага году ў загатоўцы сіласных кармоў—у гэтым годзе трэба наверстаць упушчанае.

Сіласная кампанія даўно ўжо пачалася. Але невыстарчальныя тэмпы наглядаюцца ў Барысаўскім раёне. Плян сіласаваньня па раёне складае 20 тыс. тон у тым ліку па калгасным сэктары 15 тыс. 300 тон і саўгасным 4 тыс. 700 тон.

На 10 ліпеня плян сіласаваньня па калгасах, саўгасах і прыгарадных гаспадарках выканан усяго на 0,15 проц. агульнага пляну. Сьмяцьцёвыя травы ад поліва на сілас не скарыстоўваюцца. Ня гледзячы на тое, што плян засеву сіласных культур выканан усяго на 33 проц., але і гэтыя травы пачынаюць сохнуць незасіласаванымі.

Ніводзін саўгас у раёне, а іх ёсьць 3, не прыступіў да сіласаваньня. Толькі калгас „Чырвоны баец“ засіласаваў 25 тон, ды калгас „Ударнік“ 5 тон.

На 1-га жніўня засталася тая самая лічба.

Па раёне налічваецца ям і траншэй, ёмістасьцю ў 4.118 тон сіласу, якія з мінулага году не раманталіся і ні ў якім разе ў гэтым годзе ня могуць быць запоўнены сіласам. Яны патрабуюць рамонту. Да будаўніцтва новых ям і траншэй не прыступаюць. Азьдзяцінкі, Баранскі, В. Негнаўскі, Перасадзкі, Прыгарадны, Хаўколецкі і іншыя сельсаветы не пабудавалі ніводнай сіласнай ямы.

У калгасе „Маяк сацыялізму“ сіласная вежа, на якую затрачана шмат сродкаў, разваліласся. Аб рамонце і сіласаваньні ніхто ня думае.

Чым тлумачыць такое ганебнае адставаньне?

Раённыя калгасныя, зямельныя і прафсаюзныя арганізацыі слаба кіруюць сельсаветамі, калгасамі і саўгасамі. Партыйныя ячэйкі, камсамольскія і сельсаветы на мясцох ня ўлічылі важнасьці сіласнай кампаніі і своечасовай уборкі сенажаці, не паклалі ў сваю працу 6 гістарычных умоў тав. Сталіна. Недаацанілі сіласнага корму—як галоўнай кармовай базы, а спасылаюцца, што „хопіць сена, няма часу займацца сіласаваньнем“.

Даволі плаваць у апартуністычным балоце. Барысаўскі раён павінен выйсьці з глыбокіх прарываў. Трэба надаць максымум увагі сіласнай кампаніі і на базе разгорнутай бальшавіцкай работы пад кіраўніцтвам партыйнай арганізацыі — мабілізаваць вакол гэтай кампаніі калгасныя масы, выканаць плян сіласаваньня ў 2.000 тон.

**А. Кузьмянок.**

# Сіласуйце корм у капцох

Посьпех сіласаваньня ў капцох забясьпечваецца тым, што: у капцы закладаецца сьвежая, зялёная, чыстая ад зямлі сырая маса. Капцы закладаюцца на працягу 3—4 дзён. Маса, якая сіласуецца, павінна быць добра ўтрамбована. Капцы засыпаюцца зямлёю на глыбіню 0,5—1 *м*. Капцы трэба забясьпечыць добрым доглядам, папярэдзіць утварэньне шчылін і пападаньне ў сілас як паветра, так і вады. Будаваць капцы далёка ад хлявоў, выбіраць высокае месца і абкопваць адводнымі каналамі.

## Пабудова траншэй і капцоў

Найлепшай сіласахавальняй зьяўляецца сіласная вежа. Але асноўным відам сіласных пабудоў у 1932 годзе ў БССР будуць яшчэ сіласныя траншэі, траншэі-капцы, сіласныя ямы і сіласныя капцы.

**Траншэі і капцы** будуюцца блізка каля скотных двароў, у такой адлегласьці, каб у сілас не папала гнаявая жыжа. Месца для пабудоў трэба выбіраць узвышанае, з добрым сьцёкам дажджавых і сьнегавых вод. Грунтовыя воды не павінны даходзіць да дна сіласахавальні ня менш як на паўмэтра.

Лепшы грунт—глiністы і суглiністы. Капцы можна будаваць і на пясчаным грунце. Напрамак траншэй і капцоў з поўначы на поўдзень. Шырыня траншэй: па дну 5 мэтраў, зьверху 6 мэтраў. Шырыня капца над траншэяй—6 мэтраў. Шырыня капца (самастойнага, без траншэі)—5—6 мэтраў, глыбіня траншэі—2 з паловаю мэтра, вышыня капца над траншэяй—4 мэтры, даўжыня траншэй і капцоў—да 30 мэтраў. З паўднёвага канца ў траншэю робіцца ўезд. У такую траншэю-капец зьмесьціцца да 450—500 тон сіласу, у самастойны капец—200—250 тон.

**Сьценкі і дно траншэі**—перад закладкай сіласнай масы трэба добра змачыць вадою: палiваць паступова, каб вада не размывала сьценак. Рэкамэндуецца ў ваду для палiўкі сьценак і дна траншэі дабаўляць соль з разьліку: на 1 квадратны мэтр дна і сьценак—1 кілёграм солі. Прамытыя

салоным растворам сьценкі і дно траншэі ня ўцягваюць у сябе сіласны сок і зьберагаюць ад пападаньня ў яго вады і паветра.

## Уборка зялёнай масы

Уборку зялёнай масы пачынаць ня больш як за 1—2 дні да сіласаваньня, каб яна не пасохла і не пажаўцела ў кучах. Сіласная маса павінна быць чыстая ад зямлі: забруджаны сілас небясьпечны для скармліваньня. Бульбянік зжынаюць жняяркамі, альбо сярпамі і скідваюць у такія кучы, якія-б забясьпечылі хуткую звозку яго, і з другога боку, у якіх-бы ён не пажаўцеў. Пры рабоце на жняярках самаскідваючы апарат выключаецца, уключэньне яго робіцца нагою, што забясьпечвае ўкладку куч бульбяніка ў адзін рад. Бураковае бацьвіньне зжынаюць сярпамі перад капаньнем буракоў і складваць у кучы на салому.

Абавязковаму зьмяльчэньню на сіласарэзках або саломарэзках падлягаюць: сланечнік, бацьвіньне земляной грушы, кукуруза, лопух, крапіва, палын, чарот, камыш і сітнік, аер, салома, лубін, дравеснае гальлё, гарбузы і ўсе перастаяўшыя на корані расьліны. Усе-ж іншыя расьліны—бацьвіньне кораньплодаў і гародных расьлін, лугавая, балотная і канюшынная атава, асака і бульбянік—можна сіласаваць у цэлым відзе. Практыка паказвае, што сіласаваньне гэтых расьлін у цэлым відзе цалкам забясьпечвае атрыманьне добрага сіласу.

## Звозка і ўкладка зялёнай масы

Калі дно траншэі пясчанае,—трэба пакласьці слой мятай тлустай гліны ў 20 **см** і ўтрамбаваць. На гэту гліну накладаецца слой **мокрага падсьцілачнага торфу ў 10 см.**

Загружаюць траншэю з глухога паўночнага канца, пакуль не закладуць гэты канец і ня выраўняюць яго з зямлёю. Тады з гэтага канца ўяжджаюць у траншэю з вазамі, якімі і трамбуюць сіласную масу. Перавозяць сіласную масу на высокіх драбінах або доўгіх панарадах, каб не забруджваць расьліннасьць калёсамі.

Каля ўсіх чатырох вуглоў траншэі ўкатваецца па чатыры бервяны такой даўжыні, каб яны над зямлёй мелі: 2 м, 3 м, 3,5 м і 4 м. Да 2 мэтраў вышыні капец не павінен звужвацца: пасьпешнае звужваньне зьмяншае колькасьць сіласнай масы, якую можна



Сілосная вежа і пабудова карытніка ў калгасс „Кастрычніцкая рэвалюцыя".

закласьці ў капец; трэба справу паставіць так, каб у капец увайшло найбольш сіласнай масы. Калі капец паднялі да 2 мэтраў, падымаюць мост і кладуць пярэдняй яго пласьцінай на ніжэйшыя бярвеньні ў два мэтры і па гэтым мосьце ўвозяць вазы на капец. Так падымаюць мост паступова аж да 4 мэтраў.

Найлепш трэба ўтрамбоўваць бакі капца, але добра трэба ўтоптваць і сярэдзіну.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на ўтрамбоўваньне сіласнай масы ў канцы дня, пры заканчэньні работ. На капец трэба паставіць вопытнага ўкладчыка, каб ён раўнамерна ўкладваў масу і роўна вёў бакі. Калі капец ня будзе роўна пакладзен, то пры асяданьні ён дасьць западзіны, у якіх будзе застойвацца дажджавая вада і пападаць у капец.

Сіласная маса накрываецца слоем мокрага падсьцілачнага торфу ў 10 сантымэтраў, ці дробнага мокрага балотнага торфу, або намочанага дравеснага лісту. Саламяную сечку на пакрыцьцё браць ня раіцца: яна многа ўносіць паветра, ад чаго псуецца сілас.

Паверх торфу кладзецца на глiністых грунтох—пласт тлустай гліны (зьверху капца) у 10 *см*, а паверх яе пласт грунтовай гліны ў 50 **см** як зьверху, так і з бакоў капца. На суглiністых грунтох пласт тлустай гліны зьверху капца ў 20 **см**, а паверх яе слой зямлі ў 75 **см**, як зьверху, так і з бакоў капца; на пясчаных грунтох—тлустая гліна перамешваецца з саламянай сечкай. Ёю абкладаецца ўвесь капец. Зьверху ў 30 **см**, з бакоў у 15 **см**. Паверх гліны насыпаецца пясок таўшчынёю ў 1 мэтр. Вакол капца выкопваецца канава.

На глiністых грунтох канава выкопваецца на адлегласьці $1^1/_2$—2 мэтра ад капца. На суглiністых—на адлегласьці 2—$2^1/_2$ мэтра, а на пясчаных—на адлегласьці $2^1/_2$—3 мэтра. Ад гэтых капцоў выкопваюцца яшчэ адводныя канавы для сьцёку вод.

## Догляд за капцом

На працягу 20 дзён за капцом штодня наглядаюць: як толькі зьявяцца шчыліны або западзіны—іх трэба закладваць мятай тлустай глінай і ўтрамбоўваць ручной трамбоўкай. Пасьля 20 дзён над капцом неабходна паставіць навес.

Перад наступленьнем марозаў капец трэба абкласьці да 1 мэтра таўшчынёю. Для гэтага скарыстоўваецца старая паляжалая салома, дравесны ліст, мох, падсьцілачны торф. Уся пакрышка павінна быць сухой.

Сіласны капец адчыняецца **з паўднёвага боку.**

Зьняўшы цёплую пакрышку, лапатаю скапваюць зямлю. Сілас выразаюць з канца пластамі зьверху ўніз асобнай лапатай-разаком.

Ад сьнегу і марозу сілас закрываецца саламяным шчытам, таўшчынёю ў 20 сантымэтраў. Для закрыцьця сіласу ўлетку—з боку яго выразкі—робяць таксама шчыт з тоўстых дошак, які шчыльна прыстаўляецца да сіласу.

Аграном **Маркаў.**

# Адбор насеньнікаў гародніны і кармовых караньплодаў

У сувязі з шырокім разгортваньнем гароднай гаспадаркі асабліва значэньне набывае забясьпечаньне гатунковым насеньнем гэтых плошчаў. Барацьба за гатунковае насеньне зьяўляецца барацьбой за высокі ўраджай добрай якасьці.

Сярод кожнай культуры ёсьць сарты для розных мэт культываваньня. Для выганкі раньняга прадукту ёсьць хуткасьпелыя гатункі (капуста № 1, морква каратэль-парыская, гуркі—Мурамскія), дамешка-ж да іх больш познасьпеючых значна зьніжае чакаемы эфэкт, што звычайна можна назіраць на нашых палёх. Неадначасовае пасьпяваньне расьцягвае тэрмін уборкі, што вядзе да дадатковай затраты працоўнай сілы і несваячасовага атрыманьня ўраджаю.

Адначасова мы маем і позьнія сарты, звычайна даючыя больш высокі ўраджай і прадукт якіх скарыстоўваецца для другіх мэт, чым хуткасьпелых (гуркі-доўжык для засолкі, капуста беларуская, Слава і Браўншвэйская для сквашваньня, морква Нанская паўдоўгая для зімовага хаваньня). Домешка да гэтых гатункаў больш хуткасьпелых не пажадана, бо, напрыклад, засолка гуркоў на зіму ўтвараецца ў жніўні—верасьні, а заквашваньне капусты ў кастрычніку—лістападзе, морква для захаваньня убіраецца ўвосень. прысутнічаньне ў гэтых пасевах сартоў хуткасьпелага насеньня дасьць і частковае пасьпяваньне ў больш раньні пэрыяд і павядзе да несваячасовага і неарганізаванага збору, альбо частковай страты ўраджаю (хуткасьпелыя сарты капусты і морквы ад перасьпелкі трэскаюцца, гуркі жаўцеюць і г. д.). Таму вырашчваючы насеньне хуткасьпелых гатункаў, мы павінны на насеньнікі адбіраць толькі расьліны хуткасьпеючыя, а сярод позьнясьпеючых наадварот выдаляць усе вельмі раньнія. Гэты адбор вядзецца непасрэдна на полі ў час росту і ўборкі расьлін.

На афарбоўку пры адборы мы павінны таксама звярачаць увагу. Так, напрыклад, у капусты большая бялізна ў надворных лісьцяў зьвязана з большай далікатнасьцю і лепшай якасьцю качана. У сталовых буракоў наадварот, найбольш інтэнсыўная афарбоўка і меншая кальцаватасьць мякаці ўказвае ва далікатнасьць пабудовы і лепшую ўсьваяемасьць. Акрамя таго афарбоўка зьяўляецца сартавой адзнакай, а мы ўжо падкрэсьлівалі, што розныя сарты адрозьніваюцца па ўраджайнасьці і якасьці, пагэтаму адбор павінен весьціся і па афарбоўцы, бо інакш атрымаем стракаты матар'ял з пагоршанай якасьцю.

Форма караньплоду альбо плада зьяўляецца сартавой адзнакай і зьвязана з гаспадарчымі ўласьцівасьцямі. Так, напрыклад, плоскія і акруглыя формы караньплодаў у параўнаньні з доўгімі адрозьніваюцца большай хуткасьпеласьцю, гладкасьцю кажуры і маюць амаль надземнае палажэньне, палягчаючае мэханізацыю ўборкі, ачыстку і мойку. Караньплоды адбіраюцца на насеньнікі з невялікімі галоўкамі, гладкія, а ўсе разгаліненыя—выбракоўваюцца. У капусты круглыя формы качана пры аднолькавай шчыльнасьці больш транспартабельны і менш размачальваюцца пры перавозках у параўнаньні з гатункамі плоскімі, асабліва калі яны некалькі кутнаваты. Пры хаваньні капусты праз зіму ў сьвежым выглядзе, лепшыя вынікі даюць таксама больш шчыльныя гатункі з круглай формай як беларуская і Амагер.

Адбор павінен вытварацца па наступных адзнаках: у капусты па часе пасьпяваньня, форме качана, афарбоўцы лісьцяў, шчыльнасьці качана. У сталовых буракоў—форме караньплоду (у плоскіх застаўляюцца на насеньнікі плоскія, а ў круглых—круглыя), а таксама маючых інтэнсыўную афарбоўку мякаці і малую кальцаватасьць, што можна вызначыць шляхам разрэзваньня караньплодаў перад пасадкай у вэртыкальным напрамку і выбракаваць усе расьліны з дрэннай кальцрукай, бо пасадка насеньнікаў буракоў палавінкамі зусім магчыма. Кармовыя буракі адбіраюцца на насеньнікі, як і астатнія караньплоды, таксама тыповай формы афарбоўкі, а ўсе дамешкі выбракоўваюцца.

У гуркоў адбор вядзецца па тыпічнасьці зялёнага плада і часу пасьпяваньня і ўсе моцна адхіляючыяся ад сорту расьліны вырываюцца альбо плады зьбіраюцца зялёнымі.

Акрамя падтрыманьня адбору неабходна ведаць, што засьмечваньне можа быць зроблена і пры зьмежных пасадках розных сартоў той-жа культуры. Бо вядома, што ў расьлін, як і ў жывёлы, ёсьць мужчынскі і жаночы пол. Каб завязалася насеньне ў расьліны—мужчынскі род (пылок) павінен трапіць на рыльца слупка (жаночы род) і запладніць завязь.

Гародныя расьліны і караньплоды падзяляюцца на самапылкавацеляў (калі расьліна апылкоўваецца пылком тэй-жа кветкі) і крыжавапылкавацеляў (калі апылкаваньне ўтвараецца пылком з другіх расьлін).

Да самаапылкавацеляў адносяцца таматы, гарох і фасоль. Да перакрыжаапылкавацеляў—гуркі, буракі, капуста, бручка, рэпа, турнэпс, рэдзька, цыбуля і г. д.

Розныя сарты самаапылкоўваючыхся расьлін мажліва на насеньне высяваць у блізкай адлегласьці адзін сорт ад другога. У той час як розныя сарты крыжаваапылкоўваючыхся расьлін павінны высажвацца на адлегласьці каля аднаго кілёмэтра адзін сорт ад другога, бо вядома, што пылок пераносіцца на вялікую адлегласьць ветрам і насякомымі (звычайна пчоламі).

Акрамя сартоў той-жа культуры таксама скрыжоўваюцца паміж сабой некаторыя культуры, якія не павінны высаджвацца ў блізасьці, а абавязкова прастранственна ізалявана. Капуста белакачаная лёгка скрыжоўваецца з чырвонакачаннай, кальрабі і ліставой і ўсе капусныя паміж сабой: бручка лёгка скрыжоўваецца з рэпай і турнэпсам, а рэпа ў сваю чаргу з турнэпсам, а рэдыс з рэдзькай. Гэтак сама сталовая морква з кармовай, а сталовыя буракі з кармовымі і абодвы апошнія з цукровымі буракамі. Таму ўсе гэтыя культуры на насеньнікі павінны высаджвацца ізалявана.

Красачкін.

Адказныя рэдактары: С. МІЦЬКОЎ.
Н. МІХАЙЛАЎ.

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 2087. 2.200 экз. Уп. Галоўлітбелу № А—2.




На 12 мес.—24 нумары 3 р.
„ 6 „ —12 „ р. 1 50
„ 3 „ — 6 „ — 75
„ 1 „ — 2 „ — 25

**ПАДПІСКУ ЗДАВАЙЦЕ НА ПОШТУ АЛЬБО ЛІСТАНОСЦУ.**

Адрас рэдакцыі часопісу:
гор. МЕНСК, САВЕЦКАЯ.